5 снежня 2014 | № 46 (415)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

У чаканні зваротнага ходу ківача

стар. 4

6 АБАРАНІЦЬ АД РАСІІ МОЖА ЎСТУПЛЕННЕ Ў ЕЎРАСАЮЗ

Неабходнасць супрацьстаяць вайсковай інтэрвенцыі Расіі — першасны матыў усіх маштабных рэформаў у грузінскай арміі



14 БЕЛАРУСКАЯ КАМПАНІЯ ВЕЛЬКАПОЛЬСКАЙ ДЫВІЗІІ

Мала хто ведае, што 95 гадоў таму польскія вайсковыя часткі прарвалі бальшавіцкі фронт і захапілі шэраг ключавых гарадоў Беларусі

12 ПУЦІН ЦІСНЕ НА БАЛГАРЫЮ

Прамова Пуціна выклікала сапраўдны палітычны землятрус у Балгарыі, следствам чаго можа стаць адстаўка ўрада



# Без анексій і кантрыбуцый

## Мы нічога анексаваць не збіраемся, яно само да нас прыплыве



Сяргей ПУЛЬША

На сустрэчы з губернатарам Калінінградскай вобласці Мікалаем Цуканавым Аляксандр Лукашэнка супакоіў Расію: «У некаторых нашых ворагаў, у тым ліку ў Расіі, і ў Беларусі іх хапае, ідуць размовы пра тое, што Лукашэнка хоча ледзь не Калінінградскую вобласць далучыць да Беларусі. Паверце, у мяне такіх планаў няма».

Тым не менш, ён заўважыў: «Беларусь заўсёды падстаўляла плячо Калінінградскай вобласці, мы ніколі яе чужой не лічылі. А ў якім складзе, у якой дзяржаве будзе Калінінградская вобласць пры такіх падыходах, напэўна, не так важна».

Гэта якраз тое, што «язык мой — вораг мой». «Некаторым ворагам» у дадзеным выпадку стаў сам Лукашэнка. Менавіта ён у мінулым годзе на сустрэчы з расійскімі журналістамі агучыў, што прапаноўваў Пуціну развіваць у Калінінградскай вобласці сельскую гаспадарку, абяцаючы перутварыць рэгіён у квітнеючы край. Пры гэтым ён зазначыў, што «не прэтэндуе на тое, каб заўтра забраць Калінінград, але калі можна было б — дык з задавальненнем».

І дадаў, што Пуцін «падтрымаў яго ў гэтым плане».

Відавочна, што зараз Аляксандру Рыгоравічу Калінінград патрэбны толькі ў эканамічным плане. Гэта самы ўразлівы рэгіён Расіі ў плане расійскага ж «харчовага эмбарга». Ён абкружаны «санкцыйнымі» краінамі, і «несанкцыйныя» харчы туды прасцей за ўсё завозіць з сіняокай. Да таго ж Лукашэнка вызначыў празрыстыя беларускія прыярытэты — беларускае будаўніцтва, МАЗы і аўтобусы з тралейбусамі ў Калінінградзе.

Так што Расія можа спаць спакойна. Пакуль. Да таго часу, як украінская вайна, Крым, заходнія санкцыі і кошты на нафту яе не дадушаць канчаткова.

Анексаваўшы Крым, парушыўшы міжнародны парадак і недатыкальнасць межаў, Расія сама пачала капаць сабе яму. Бо нідзе, як у Расіі, не існуе столькі шмат розных сепаратысцкіх настрояў. Менавіта пасля Крыму аб стварэнні ўласнай Сібірскай дзяржавы пачалі ўголас казаць на Урале. Татарстан з Башкірыяй наўрад ці задаволеныя, як у Крыме абыходзяцца з іх братамі-татарамі. Пра Чачню-Ічкерыю нават казаць не варта.

У тым самым Калінінградзе нездарма не забыліся на гістарычную назву горада і, хутчэй, у выніку «распаўзання» Расіі яны рынуцца альбо ў Германію, альбо ў Польшчу. Так што Аляксандру Лукашэнку «Кемска воласць» не свеціць.

А вось што прыплыве ў Беларусь, дык гэта гістарычна нашыя Смаленск і Бранск. Вось да чаго трэбаціха рыхтавацца.





У красавіку, паводле апытання смаленскага парталу gorodnews.ru, 22% ягоных чытачоў хацелі б далучыцца да Беларусі. Паралельна на сайце avaaz.org быў абвешчаны збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму аб уваходжанні Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці ў склад Беларусі. Петыцыя адрасаваная адміністрацыі Смаленскай вобласці і адміністрацыі Шумяцкага раёна. «Да 1939 года вялікая частка Шумяцкага раёна ўваходзіла ў склад Рэспублікі Беларусь. Я лічу незаконным захоп спрадвечна беларускіх зямель», — гаварылася ў заяве. Пры ўсёй смешнасці ініцыятывы, пад ёй паставілі подпісы больш за 2 000 чалавек.

**64,32% наведвальнікаў сайту gorodb.ru прагаласавала за Бранск у складзе Беларусі**

Такія настроі калі не цалкам, дык часткова падтрымліваюцца мясцовымі ўладамі. У гэтую ж вясну ў газеце «Рабочы шлях» губернатар Смаленшчыны Аляксей Арлоўскі выступіў з прапановай перадаць Беларусі зямлю ў Краснінскім, Веліжскім, Манастыршчынскім, Хіславіцкім, Ершыцкім, Руднянскім і тым жа Шумяцкім раёнах. Адзіная ўмова губернатара — каб прыбытак ад гаспадаркі ў раёнах ішоў у бюджэт Смаленскай вобласці.

Не менш вясёлая сітуацыя на Браншчыне. Тамтэйшы партал gorodb.ru правёў апытанку чытачоў ужо ў кастрычніку. За яе даваліся апраўдвацца, бо па выніку галасавання, якое і доўжылася ўсяго крыху больш за гадзіну, за Бранск у складзе Беларусі прагаласавала 64,32% наведвальнікаў сайту. Потым рэдакцыя тлумачыла: маўляў, даведаўшыся пра галасаванне, на сайце масава адказвалі беларусы, а таксама жыхары Масквы, Ніжняга Ноўгарада, Санкт-Пецярбурга і, чамусьці, Омска. А таму да меркавання бранчанаў гэтая апытанка дачынення не мае.

Але, нават калі адкінуць беларусаў (што і зрабілі ў каментарах некаторыя чытачы), усё роўна за Бранск у Беларусі прагаласавалі ўдвая больш, чым за Бранск у Расіі. Пасля гэтага gorodb.ru вымушаны быў, па прызнанні рэдакцыі сайта, «пайсці на беспрэцэдэнтны выпадак — закрыць магчымасць каментавання».

Таму Лукашэнка абсалютна слушна кажа: не будзе ніякай анексіі і ніякіх беларускіх «ветлівых людзей» і «зялёных чалавечкаў». За Аляксандра Рыгоравіча ўсё зробіць Уладзімір Уладзіміравіч. Лукашэнку проста трэба ствараць вобраз «квітнеючай, мірнай і стабільнай краіны», ні ў якім разе не ўлазячы ва ўкраінскі канфлікт, і тым жа часам захоўваць імідж «найлепшага сябра Расіі, які не кіне яе ў цяжкія часы». Да «сябра», калі ў Расіі пачнецца «парад суверэнітэтаў», Бранск і Смаленск прыйдуць самі і з братэрскімі абдымкамі.

Фантастычна? «Крымнаш» таксама год таму здаваўся фантастыкай. Галоўнае для Беларусі зараз — не зваліцца ў сацыяльна-эканамічнае піке разам з усходняй суседкай. Тады да нас усё і прыплыве — з цягам часу.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

### БРЭСТ. Пікет пад пагрозай зрыву

**Кіраўніцтва парка не хоча заключаць дамову, якую ўлады патрабуюць для дазволу на правядзенне пікета**

Заяўку на тое, каб зладзіць 10 снежня пікет, прымеркаваны да Міжнароднага дня правоў чалавека, брэсцкія праваабаронцы падалі ў мясцовы гарвыканкам. Месца, абранае для пікета — парк воінаў-інтэрнацыяналістаў (адна з пляцовак, якую ўлады самі вызначылі для правядзення масавых акцый).

Як паведаміў адзін з ініцыятараў пікета, праваабаронца Уладзімір Вялічкін, згодна з цяперашнім заканадаўствам, для таго, каб правесці масавае мерапрыемства, трэба заключыць дамовы з шэрагам інстанцый, якія забяспечваюць вываз смецця, ахову парадку і медычнае абслугоўванне. Брэсцкія ўлады патрабуюць і дамову з арганізацыяй, на тэрыторыі якой плануецца пікет. Аднак прадстаўнік парку заявіў, што не абавязаны заключаць дамову, таму і рабіць гэтага не будзе.

### ГРОДНА. Журналіст аштрафаваны на 40 базавых велічынь

**Да чарговага штрафу за «незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі» асуджаны гродзенскі журналіс Андрэй Мялешка.**

Паводле пастановы суддзі Ленінскага раённага суда Юрыя Казакевіча, ён аштрафаваны на 40 базавых велічынь, што складае 6 мільёнаў беларускіх рублёў.

16 кастрычніка бягучага года Андрэй Мялешка ў абласной бібліятэцы імя Карскага на прэзентацыі гістарычных выданняў запісаў кароткі каментар аднаго з аўтараў кніжкі — прафесара Гродзенскага ўніверсітэту імя Янкі Купалы Валерыя Чарапіцы. Пазней аўдыёфрагмент быў змешчаны на сайце «Беларускага Радыё Рацыя». Ленінскі РАУС пачаў па гэтым факце ў дачыненні да Мялешкі адміністрацыйную справу.

На судовым працэсе першым сведкам выступаў загадчык кафедры славянскіх дзяржаваў Валерый Чарапіца, які пацвердзіў факт таго, што даваў каментар Мялешку. Іншая ж сведка — Тамара Піваварчык — зусім заблыталася ў сваіх паказаннях. Так, у пратаколе апытання, складзеным міліцыяй, яна сцвярджала, што дакладна бачыла, як Мялешка браў інтэрв'ю ў Чарапіцы. На працэсе ж сцвярджала зусім адваротнае, а на пытанні суддзі не магла выразна сфармуляваць свае адказы. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што Піваварчык Тамара Анатолеўна ўзначальвае кафедру журналістыкі Гродзенскага ўніверсітэту.

У выніку разгляду справы, якая доўжылася менш за паўтары гадзіны з перапынкам, суддзя Юрый Казакевіч, нягледзячы на адсутнасць доказаў віны Андрэя Мялешкі і неадпаведнасць адміністрацыйнага артыкулу сутнасці сітуацыі, прызнаў журналіста вінаватым і пакараў яго вялікім штрафам. Раней, 4 красавіка бягучага года, гэты ж суддзя асудзіў па тым жа артыкуле на 30 базавых штрафу іншага гродзенскага журналіста-фрылансера — Алеся Дзянісава.

Нагадаем, што гэта ўжо трэці аналагічны штраф Андрэю Мялешку за журналісцкую дзейнасць. 16 чэрвеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Гродна намеснік старшыні гэтага суда Дзмітрый Кедаль пакараў фрылансера штрафам на 30 базавых велічынь, а 7 кастрычніка ў Гродзенскім раённым судзе суддзя Ганна Лявусік вынесла журналісту пакаранне ў выглядзе штрафу памерам 35 базавых велічыняў.

Пераслед незалежных журналістаў на Гродзеншчыне працягваецца. Чарговую справу пачаў Слонімскі РАУС у дачыненні да журналіста Алеся Залеўскага.

### БЯЛЫНІЧЫ. «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання»

**Магілёўская вобласць далучылася да акцыі ў абарону жыцця. У гарадскім пасёлку Бялынічы мясцовыя грамадскія актывісты распаўсюдзілі кнігу Валерыя Філіпава «Каму патрэбна смяротнае пакаранне».**

Акцыя была прымеркаваная да супольнай акцыі «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання», якая ладзіцца 30 лістапада ў многіх краінах свету.

Кнігі Валерыя Філіпава «Каму патрэбна смяротная пакаранне» былі распаўсюджаны праз крамы мясцовых прадпрымальнікаў — сяброў Партыі БНФ і актывістаў кампаніі «Гавары праўду». Бялыніцкія грамадскія актывісты распаўсюдзілі выданне з надзеяй, што, азнаёміўшыся з гэтай кнігай, людзі будуць актыўней выказвацца за адмену гэтага антыгуманнага віду пакарання.

**Паводле spring96.org**

# Спыніць будаўніцтва свінакомплексаў

**Два вялізарныя свінакомплексы, на сто тысяч галоў кожны, плануецца пабудаваць у Маладзечанскім раёне.**

У Маладзечне прайшлі грамадскія слуханні па гэтай тэме. Як заўсёды, слуханні прайшлі не для грамадства, а каб «выканаць працэдуру», паведаміла Прэсавая служба БХД.

Абвестка аб правядзенні грамадскіх слуханняў была размешчана ў мясцовай газеце дробным шрыфтам. Тэрыторыя, на якой плануецца будоўля, ужо даўно размечаная, а рашэнне аб пабудове агучана ў СМІ, паведамляе Мінскі абласны каардынатар аргкамітэту БХД Павал Пракаповіч.

Будаваць свінакомплексы бізнесовец Юрый Чыж збіраецца, як заўсёды, у абыход экалагічных нормаў. Ці, лепш сказаць, згодна з сучаснымі нормамі беларускага рэжыму: не звяртаючы асаблівай увагі на нормы. І калі будаваць дамы на касцях ахвяраў Халакосту Чыж не змог, таму што ўмяшаўся МЗС Ізраіля, то са свінакомплексамі справа значна цяжэйшая: пытанне цалкам унутранае, «правільныя» экалагічныя эксперты гатовыя падпісаць любыя заключэнні, а грамадзяне Маладзечанскага раёна для Чыжа — не праблема.

Санітарныя зоны вакол свінакомплексаў самавольна скарочаныя ўладамі, адзін са свінакомплексаў плануецца пабудаваць за тры кіламетры ад Маладзечна. У праектных разліках плануемых свінакомплексаў шмат памылак. Праектныя рашэнні па ўтылізацыі адходаў распрацаваны ў недастатковай колькасці і па састарэлых дацкіх тэхналогіях, якія даўно ўжо лічацца небяспечнымі ў краінах Еўрасаюза.

Замест таго, каб укладаць інвестыцыі ў найноўшыя тэхналогіі, працаваць з поўнай адказнасцю перад беларускім грамадствам і перад будучымі пакаленнямі беларусаў, Юрый Чыж думае толькі пра ўласны прыбытак. Свінакомплексы будуюцца выключна з крытэраў максімальнай фінансавай выгады. І падаецца ўсё гэта як выкананне патрабаванняў кіраўніка краіны аб павелічэнні пагалоўя свіней, бо зараз, нібыта, існуе пагроза харчовай небяспекі. Пра экалагічную небяспеку, якая ўжо наканаваная беларусам у выніку злачынных рашэнняў, ніхто не ўзгадвае. Для Аляксандра Лукашэнкі ўжо даўно адзіная вартая клопатаў небяспека — свая асабістая.

Пабудаваць так, як будзе бяспечна для прыроды і людзей, для Юрыя Чыжа занадта дорага.

Падчас грамадскіх слуханняў выступоўцы з боку ўладаў і заказчыка альбо не адказвалі па сутнасці на пытанні грамадзян, альбо ўвогуле не лічылі патрэбным адказваць.

Забеспячэнне аховы навакольнага асяроддзя, экалагічнасць праектаў — не абавязковыя крытэры для сённяшняй улады.

БХД патрабуе неадкладна спыніць будаўніцтва свінакомплексаў у абыход экалагічных нормаў і пачынае грамадскую кампанію ў рамках «Народнага кантролю» аб спыненні незаконнага будаўніцтва свінакомплексаў у Маладзечанскім раёне.

На сайце Change.org пачаўся збор подпісаў пад інтэрнэт-петыцыяй супраць будаўніцтва свінакомплексаў. «Функцыянаванне ў адным раёне двух буйных свінакомплексаў прывядзе да забруджвання атмасфернага паветра, грунтовых водаў і глебы ды нанясе непапраўны ўрон навакольнаму асяроддзю і здароўю насельніцтва. У разліках, прадстаўленых у ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, значна заніжаны ўзровень урону. У межы базавай санітарна-ахоўнай зоны трапляюць жылыя зоны, што не адпавядае патрабаванням санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь», — адзначаюць аўтары петыцыі.

# Стратэгія ўстойлівага развіцця

Генадзь КЕСНЕР

**Беларуска-нямецкая практычная канферэнцыя «Стратэгія ўстойлівага развіцця. Кіраванне, маніторынг і ацэнка на мясцовым узроўні» прайшла 3–4 снежня ў Мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў (IBB).**

Мерапрыемства адбылося ў шэрагу сумесных дзеянняў IBB і Міністэрства эканомікі Беларусі. У канферэнцыі бралі ўдзел і прадстаўнікі недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў.

Як нагадалі арганізатары канферэнцыі, цягам бягучага года ладзіліся імпрэзы, прысвечаныя распрацоўцы і ажыццяўленню Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця Беларусі да 2030 года. Ад сакавіка да верасня 2014 года з прадстаўнікамі айчыннага Мінэканомікі тройчы сустракаліся эксперты Праграмы падтрымкі Беларусі Федэральнага ўраду Германіі Клаус Ройтар і Роланд Цішак, якія ўзялі ўдзел і ў цяперашнім мерапрыемстве, а таксама Людвіг Хольцбек і Морыц Шміт — усе яны рабілі экспертныя ацэнкі канцэпцыі развіцця Беларусі да 2030 года.

Каардынатар адукацыйных праграмаў Мінскага IBB Марцін Шон паведаміў, што яшчэ ўлетку адбылася навучальная вандроўка ў Берлін і зямлю Паўночны Рэйн-Вестфалія прадстаўнікоў беларускіх органаў кіравання, установаў і недзяржаўных арганізацыяў нацыянальнага і рэгіянальнага ўзроўняў. Яны наведалі Берлінскі Кангрэс-цэнтр, Нацыянальны савет па ўстойлівым развіцці Германіі, сустрэліся з прадстаўнікамі федэральнага міністэрства па ахове навакольнага асяроддзя, іншых дзяржаўных структураў, азнаёміліся з праграмай устойлівага развіцця ФРГ.

Што да Беларусі, то, як адзначалі арганізатары цяперашняй канферэнцыі, стратэгічнай мэтаю з'яўляецца «павышэнне эфектыўнасці дзяржаўнага кіравання ў кантэксце забеспячэння ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця і дасягнення высокіх пазіцыяў у глабальнай эканамічнай канкурэнцыі». Па словах нямецкага эксперта Клауса Ройталя, праграма ўстойлівага развіцця тычыцца не толькі эканамічнага прагрэсу, але і развіцця прагрэсу сацыяльнага ды экалагічнага. «Аднак трэба мець на ўвазе, што ідэі мусіць прадукаваць сама краіна, якая зацікаўленая ва ўстойлівым развіцці. Беларусь такую цікавасць мае. Але ўсё залежыць ад сапраўднага жадання працаваць над гэтым, а замежнікі могуць толькі дапамагчы нейкімі парадамі», — адзначыў Ройтар.

У сваю чаргу, прадстаўнік Свабоднага Берлінскага ўніверсітэта Роланд Цішанк дадаў, што праграма ўстойлівага развіцця вельмі актуальная і для Германіі, асабліва для зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. «У 1980–1990-х там абрынулася вугальная і металургічная прамысловасць. Многія людзі засталіся без працы. І толькі ажыццяўленне праграмы ўстойлівага развіцця дапамагло пазбегнуць вялікіх непрыемнасцяў», — сказаў Цішанк.

А выканаўчы дырэктар Дортмундскага IBB Петэр Юнгэ-Вэнтруп выказаў меркаванне, што без шчырага і шчыльнага супрацоўніцтва паміж органамі ўлады і недзяржаўнымі арганізацыямі дасягнуць поспеху ў рэалізацыі амбітнай праграмы будзе вельмі няпроста.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Назад у будучыню

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Я не ўяўляю, для каго і навошта ствараюцца прагнозы і планы сацыяльна-эканамічнага развіцця. Тыя, хто іх пішуць, прагназуюць паказнікі горш за сіноптыкаў.**



Вось на тыдні Аляксандр Рыгоравіч падпісаў указ, які зацвярджае прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі на 2015 год. Зразумела, што для падпісання ўказа не абавязкова чытаць сам прагноз. А дарма. Бо ягоныя аўтары былі б адразу пераведзеныя ў грузчыкі за марнаванне дзяржаўных грошай і карыснага рэсурсу (паперы).

Адразу адзначым, што гэты прагноз называюць «песімістычным». Напрыклад, плануецца, што ВУП вырасце на 0,2–0,7% (раней амбітныя планы складалі 5%, і нават 8% за год). Прадукцыйнасць працы за кошт мадэрнізацыі вырасце на 1,5–2%. З-за падзення коштаў на нафту ўлады прагназуюць у 2015 годзе зніжэнне экспарту на 3,6–4,0% ад узроўню 2014 года. Увод жылля з дзяржаўнай падтрымкай чакаецца ў аб'ёме не менш як 2,5 мільёна кв.м.

Самай невыканальнай задачай уяўляецца зніжэнне інфляцыі да 12%.

Дзіўным паказчыкам з'яўляецца планаваны рост рэальных грашовых даходаў насельніцтва 1,1–1,5% да ўзроўню гэтага года. Выбачайце, гэта мінімум у 2 разы больш за планаваны ВУП. Гэта значыць, рост заробкаў зноў будзе апераджаць рост выпушчанай прадукцыі? То бок, зноўку напампоўванне эканомікі пустымі грашыма? А як тады зніжаць інфляцыю? Хіба гэта рэалістычна?

На гэтыя пытанні адказы ніхто даваць і не збіраецца. Таму што 2015 год ужо настаў, прынамсі, для «прагнознікаў». Нават гэты «песімістычны» прагноз разлічваўся з сярэднегадавога кошту на нафту ў 2015 годзе ў $83 за баррэль і курсу расійскага рубля ў 43 за долар.

Зараз нафта каштуе па $72 за баррэль, а расійскі рубель з цяжкасцю ўтрымліваецца на ўзроўні 50 за долар. Так што нашая «песімістычная» і хуткая будучыня ўжо настала ўчора. А Аляксандру Рыгоравічу варта параіць пачытаць, што ён падпісвае.

І гэта ж не адзін прагноз такі! Кампанія «Гавары праўду!» прапанавала Мінэканомікі перагледзець такі ж нягеглы прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі аж да 2030 года. Там таксама на паперы ўсё «ў шакаладзе», а насамрэч... Насамрэч Лукашэнка даўно ставіў задачу давесці насельніцтва Беларусі да 30 мільёнаў, а «прагноз–2030» па-ранейшаму прадугледжвае колькасць насельніцтва ў 10 мільёнаў асобаў...

**«У сучасных умовах без прафсаюзаў ні туды і ні сюды, асабліва мне, паколькі гэта мой народ, гэта мае выбаршчыкі, і я вымушаны шукаць тыя арганізацыі, якія будуць мне дапамагаць у гэтай сітуацыі...»**

Карацей, нашых прагнозчыкаў трэба замяніць на астролагаў. Тыя хаця б на зоркі глядзяць, перш чым нешта напрарочыць.

Пасля такіх прагнозаў Аляксандр Рыгоравіч у чарговы раз правёў нараду па павышэнні выканаўчай дысцыпліны. «Двойчы ў мяне на стале знаходзіўся праект дакумента па гэтым пытанні, і двойчы мы адхілялі яго. У апошні раз мы бачылі: так, з кіруючых кадраў мы патрабуем, і мы павінны патрабаваць у гэтых умовах. Але таксама мы канставалі: перш чым патрабаваць з кіраўніка, яму трэба выразна акрэсліць яго правы, дадаць улады», — заявіў Лукашэнка.

Але ўказ кіраўніка дзяржавы пра дысцыпліну пісалі тыя ж распрацоўшчыкі, што і прагнозы развіцця Беларусі. У чарговы, трэці раз, праект дакумента быў адпраўлены на дапрацоўку. Сапраўды, як паказвае практыка, начальнік на дзяржпрадпрыемстве — цар і Бог, і абмежаваць ягоныя правы можа толькі Камітэт дзяржкантролю, і тое, калі ўзбудзіць крымінальную справу за карупцыю. Якія яшчэ правы і ўладу можна даць таму начальніку?

Вось Лукашэнка і разгубіўся. Настолькі, што па гэтым пытанні вырашыў параіцца з нядаўна прызначаным на пасаду старшыні ФПБ Міхаілам Ордай. «У сучасных умовах без прафсаюзаў ні туды і ні сюды, асабліва мне, паколькі гэта мой народ, гэта мае выбаршчыкі, і я вымушаны шукаць тыя арганізацыі, якія будуць мне дапамагаць у гэтай сітуацыі, якая ў нас складваецца, абараняць інтарэсы і правы нашых людзей. Гэта без усялякіх ухмылак і намёкаў. Сапраўды, гэта вельмі важна», — падкрэсліў значнасць ФПБ кіраўнік сінявокай. І адразу ж высветлілася, што менавіта прафсаюзнікі будуць назіраць за дырэктаратам.

«Мы дамо кіраўнікам дадатковыя правы, але і вельмі жорстка спытаем з іх. Дык вось у гэтай сітуацыі прафсаюзы якраз павінны знайсці сваё месца і дапамагчы мне адсачыць, як будзе рэалізоўвацца гэты дэкрэт, і каб мы не наламалі дроў. Таму што выканальніцкая дысцыпліна ні да чорту: і рабочых, і сялян, і спецыялістаў сярэдняга звяна, і вышэй, і кіраўнікоў. Яна мяне не задавальняе!» — паскардзіўся беларускі кіраўнік.

Такім чынам, прафсаюз, замест таго, каб бараніць інтарэсы працоўных, будзе назіраць за выканаўчай дысцыплінай усіх узроўняў.

Асабліва гэта тычыцца прыватных прадпрыемстваў — Лукашэнка ў чарговы раз падкрэсліў, што для яго ўсе прадпрыемствы роўныя: і дзяржаўныя, і прыватныя. «Таму трэба больш актыўна заняцца канчатковым фарміраваннем прафсаюзных арганізацый у прыватным сектары... На прыватных у нас часта з'яўляюцца праблемы, а людзі маюць патрэбу ў падтрымцы і абароне», — сказаў Лукашэнка.

Нялёгкая выпала спадчына Ордзе: гэта ягоны папярэднік Леанід Козік прапаноўваў ахапіць прафсаюзамі ФПБ усе прыватныя прадпрыемствы краіны. А разграбаць усё — новаму кіраўніку.

Цікава, ці з'явіцца прафсаюз у сетцы хуткага харчавання McDonald's? Ва ўсім свеце гэтыя бутэрбродныя сталі «пудзілам прафсаюзнага руху», дзе стварэнне прафсаюза амаль немагчымае. Можа, Беларусь, дзякуючы Ордзе, стане выключэннем?

І яшчэ больш цікава: ці з'явіцца свой, асобны прафсаюз у Савеце міністраў? Так бы мовіць, «прафсаюз работнікаў кіруючых кадраў»? Тады, пэўна, сам Орда і зоймецца тымі чыноўнікамі, якія пераводзяць каштоўныя беларускія лясы на напісанне бязглуздых прагнозных паказчыкаў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жызнеўскі



**Пётр Парашэнка ўзнагародзіў ордэнамі Герояў Нябеснай Сотні трох замежнікаў — Міхаіла Жызнеўскага з Беларусі і Зураба Хурцію ды Давіда Кіпіані з Грузіі, якія загінулі падчас Рэвалюцыі годнасці.**

Адпаведны дакумент Пётр Парашэнка падпісаў падчас сустрэчы з бацькамі Міхаіла Жызнеўскага, якім перадаў узнагароду іх сына.

Кіраўнік Украіны падзякаваў сям'і за тое, што выхавалі героя, памяць аб якім назаўжды застанецца ў сэрцах украінцаў. «Ваш сын — сапраўды герой. Ён аддаў самае каштоўнае — сваё жыццё. І аддаў яго не толькі за свабоду Украіны, але і за тое, каб была дэмакратыя і свабода ва ўсёй Еўропе і ва ўсім свеце», — адзначыў Парашэнка.

Таксама Жызнеўскі пасмяротна можа стаць і Героем Украіны. Сённяшні закон не дазваляе ўручаць гэтую ўзнагароду замежнікам, і патрэбна адпаведнае рашэнне Вярхоўнай Рады, каб гэтую сітуацыю змяніць. Парашэнка спадзяецца, што новы парламент прыме неабходныя змены ў заканадаўства.

## Мікалай Снапкоў

**Ці сам міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў, ці ягонае ведамства без ягонай згоды, але наважыліся сказаць уголас тое, пра што ўсе астатнія думалі, ведалі — і маўчалі.**



У вытворчай сферы Беларусі — стагнацыя, засведчыў Навукова-даследчы эканамічны інстытут (НДЭІ) Міністэрства эканомікі.

«Вынікі лістападаўскага апытання сведчаць аб стагнацыі ў вытворчасці», — канстатуюць спецыялісты НДЭІ Мінэканомікі. Дадзеная сітуацыя, тлумачаць эканамісты, абумоўлена зніжэннем попыту на прамысловую прадукцыю. «Кан'юнктурнае апытанне кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, праведзенае ў лістападзе бягучага года, зафіксавала зніжэнне фактычных аб'ёмаў вытворчасці прамысловай прадукцыі і далейшае скарачэнне попыту на яе», — гаворыцца ў справаздачы НДЭІ Мінэканомікі.

Эканамісты адзначаюць, што скарачэнне попыту зафіксавана як на ўнутраным, так і на знешнім рынках. Прычым на расійскім рынку, удакладняюць эксперты, «зафіксавана даволі імклівае скарачэнне попыту» на беларускую прадукцыю. Скарачэнне попыту, у сваю чаргу, прывяло да павелічэння складскіх запасаў.

«Аб'ёмы прамысловай вытворчасці ў снежні, верагодна, скароцяцца. Доля кіраўнікоў, якія прагназуюць у бліжэйшы месяц рост вытворчасці, склала толькі 19%. Пры гэтым 51% рэспандэнтаў мяркуюць, што выпуск прадукцыі на прадпрыемствах захаваецца на ранейшым узроўні», — адзначаюць у НДЭІ Мінэканомікі.

## Дзмітрый Дашчынскі

**Вядомы беларускі фрыстайліст Дзмітрый Дашчынскі абвясціў аб завяршэнні кар'еры.**



«З упэўненасцю магу сказаць, што кар'еру спартоўца завяршаю. Яшчэ былі сумневы з нагоды выступу ў будучым сезоне, але ўсё вырашыў выпадак. Спускаўся па лесвіцы — спатыкнуўся, упаў і зламаў палец. Падаецца, глупства, але месяц правёў у гіпсе, і — бывай летнія зборы. Затым дала пра сябе ведаць старая траўма пляча. Так што на бліжэйшым Чэмпіянаце свету, які пройдзе ў студзені, я ўжо не выступлю», — заявіў Дашчынскі «АіФ у Беларусі».

«Наогул, з кожным годам часу на падрыхтоўку да спаборніцтваў сыходзіць усё больш. Адчуваецца стомленасць, няма таго азарту, як раней. На старт выходзіш як на паўсядзённую працу», — сказаў ён.

Што датычыцца далейшых планаў, то фрыстайліст плануе перайсці ў трэнеры, хоць пакуль што, паводле яго слоў, для яго «няпростая гэта справа».

Азбука паліталогіі

# У чаканні зваротнага ходу ківача



Сяргей НІКАЛЮК

**Я не схільны паддавацца магіі круглых датаў, але роўна сто гадоў таму гасудар імператар уласнаручна вывеў сацыяльны ківач са стану раўнавагі. Чым гэта скончылася — добра вядома.**

Расіяне скупляюць грэчку. Па дадзеных «Левада-цэнтра», працэс набыў масавы характар. Падчас лістападаўскага апытання 28% рэспандэнтаў адзначылі, што за апошні месяц куплялі яе «пра запас». Рост цэн на грэцкія крупы — асноўная прычына ажыятажнага попыту. Жанчыны (35%), рэспандэнты ва ўзросце ад 55 гадоў і старэй (38%) і расіяне з нізкім спажывецкім статусам (34%) часцей за астатнія катэгорыі насельніцтва куплялі грэчку ў запас.

Ажыятажны попыт на грэчку не прывёў да абвальвання рэйтынгу даверу расійскага прэзідэнта. У лістападзе яму давяралі 85% расіян. Г.зн. у чарговы раз мы сталі сведкамі справядлівасці формулы «мухі асобна, катлеты асобна». Пад «мухамі» ў дадзеным выпадку варта разумець паўсядзённае жыццё расіян, пад «катлетамі» — жыццё віртуальнае, сфармаванае «малюнкамі» ў тэлевізары.

«Малюнкі» звязаныя са знешнімі падзеямі (палітыка ЗША, падзеі ва Украіне). Арыентацыя на сюжэты, малазнаёмыя шараговаму абывацелю, павышае эфектыўнасць прапаганды. Абалваньванне насельніцтва наконт стану спраў унутры краіны заўсёды менш паспяховае, таму што людзі ўсё бачаць на ўласныя вочы.

## Вандэя перабудовы

На піку грамадскага ўзбуджэння, звязанага з «аднаўленнем гістарычнай справядлівасці» (анексіяй у сакавіку Крыму), штодзённасць была размаляваная для большасці расіян вясёлкавымі фарбамі. Уверх скіраваўся не толькі індэкс становішча спраў у краіне, але і індэксы сацыяльных і спажывецкіх настрояў.

Грамадству ўпрыснулі патрыятычны морфій. Ён стварыў адчуванне эйфарыі, заглушыў вастрыню ўспрымання паўсядзённых праблем.

Ліквідаваць жа самі праблемы аднаразовай ін'екцыяй было немагчыма. Для падтрымання грамадства ва ўзбуджаным стане неабходна было ўводзіць новыя порцыі наркотыку, таму прапаганда пераключылася з Крыму на Данецк і Луганск. Але да сярэдзіны восені з'явіліся першыя сіндромы прывыкання да шокавых інфармацыйных паведамленняў: найбольш палахлівыя «мухі» сталі аддзяляцца ад «катлет».

«Чым даўжэй цягнецца імперскі сон рускага народа, — адзначае палітолаг Уладзімір Пастухоў, — тым цяжэй будзе абуджэнне. Вядома, рускаму чалавеку не прывыкаць да пахмелля. Але на гэты раз, падобна, рэальнасць пераўзыдзе ўсе яго найгоршыя чаканні. «Ветлівымі чалавечкамі» справа можа не скончыцца. Курс на захаванне імперыі любой цаной — гэта тупіковая стратэгія, накіраваная на выжыванне без развіцця. Той, хто не развіваецца, выжыць не можа па азначэнні — ні ў прыродзе, ні ў гісторыі».

Можна паспрабаваць схавацца ў якой-небудзь маргінальнай нішы, па прыкладзе Паўночнай Карэі. Расія, аднак, занадта вялікая, каб схавацца.

«Малюнкі» расійскіх тэлеканалаў не пакінулі абыякавымі і беларускіх тэлегледачоў. Па дадзеных НІСЭПД (верасень), інфармацыю пра падзеі ва Украіне з расійскіх тэлеканалаў атрымліваюць 65% суайчыннікаў, з беларускіх — 67%. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што і ў Беларусі рэйтынг адзінага палітыка (АП), насуперак падзенню тэмпаў росту даходаў насельніцтва, дадаў за год 10 пунктаў.

Незалежныя аналітыкі дружна патлумачылі гэту анамалію страхам беларусаў перад «хаосам Майдана». Гэты страх, мяркую, і спарадзіў жаданне згуртавацца вакол АП. Пэўная логіка ў такім тлумачэнні ёсць, але калі з ёй пагадзіцца, то атрымліваецца, што адны і тыя ж тэлевізійныя «карцінкі» ў расіян выклікалі эйфарыю, а ў беларусаў — страх.

У снежні 2009 года 67% суайчыннікаў пагадзілася з тым, што беларусы, рускія і украінцы з'яўляюцца трыма галінамі аднаго народа. Што іх аб'ядноўвае? Я думаю, «чалавек савецкі». Гэты сацыяльны тып пазбаўлены нацыянальных прыкмет. Сацыёлаг Юрый Левада так вызначаў яго асноўныя рысы: прымусовая самаізаляцыя, дзяржаўны патэрналізм, эгалітарысцкая іерархія, імперскі сіндром. Апошні, як паказала масавая рэакцыя на падзеі ва Украіне, уласцівы 85–90% расіян і не менш за 65% беларусаў.

| Чым, на вашу думку, выкліканы рост коштаў, істотнае зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва, пагаршэнне эканамічнага становішча краіны? (магчыма некалькі варыянтаў адказу) | |
|---|---|
| Падзеннем цэнаў на нафту | 45 |
| Санкцыямі краін Захаду да Расіі | 33 |
| Вялікімі выдаткамі на далучэнне Крыма і падтрымку ДНР і ЛНР | 30 |
| Карупцыяй у органах дзяржаўнай улады | 26 |
| Асаблівасцямі расійскай эканомікі: тэхналагічнай адсталасцю, рэшткамі савецкай галіновай структуры, прыярытэтам ваенна-прамысловага комплексу | 26 |




Большасці чытачоў «НЧ», верагодна, будзе няпроста пагадзіцца з гэтай сацыялогіяй. Таму нагадаю, што пісьменнік Алесь Адамовіч у свой час называў Беларусь «Вандэяй перабудовы». Вызначэнне нарадзілася не на пустым месцы. І з таго часу, як сведчаць два дзесяцігоддзі апытанняў НІСЭПД, структура беларускага грамадства прынцыпова не змянілася.

## Sic transit gloria mundi

Але вернемся ў Расію, і зробім гэта з дапамогай гісторыка Юрыя Піваварава: «Савецкі рэжым загінуў, таму што не мог нармальна існаваць ва ўмовах спакою. Савецкая сістэма была створана (сканструяваная) для функцыянавання ў надзвычайных умовах: для таго, каб праводзіць тэрор, весці татальныя вайны, пастаянна трымаць зацугляным насельніцтва (праз бязлітасныя мабілізацыі). Але ніякі сацыяльны парадак у гісторыі чалавецтва доўга гэтага вытрымаць не можа. Стамляецца».

Мы сёння і назіраем пачатковую стадыю стомленасці расійскага грамадства ад знаходжання ў стане палітычнага ўзбуджэння. Але пры гэтым, як ужо адзначалася вышэй, вяртанне ў зыходны стан адбываецца не раўнамерна, а шляхам «аддзялення мух ад катлет». Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Мы жывем ва ўмовах панавання ўтылітарызму (маральны ідэал, які характарызуецца ўзрастаннем каштоўнасці паўсядзённых выгод).

«Крым наш!» — гэта выдатна, але на пытанне: «Ці згодныя вы з меркаваннем, што ў Расіі пачынаецца рэзкі рост цэнаў, істотнае зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва, пагаршэнне эканамічнага становішча краіны?» варыянты адказаў «згодны / хутчэй згодны» ў лістападзе выбрала 80% рэспандэнтаў «Левада-цэнтра».

А цяпер звернемся да табліцы, у якой для сцісласці пакінулі толькі пяць самых папулярных адказаў. Санкцыі краін Захаду і выдаткі на далучэнне Крыма і падтрымку ДНР і ЛНР адзначылі 66% рэспандэнтаў. Падзенне коштаў на нафту (45%) — фактар знешні, а вось чацвёрты і пяты варыянты пераводзяць стрэлкі адказнасці непасрэдна на ўладу.

Увесь сэнс цяперашняй палітыкі дэстабілізацыі Украіны заключаецца ў тым, каб дыскрэдытаваць сілы дэмакратычнай нацыянальнай кансалідацыі і любым чынам перанесці незадаволенасць расійскага насельніцтва з карумпаванай бюракратыі на знешнія сілы і іх саюзнікаў («пятую калону») унутры краіны.

У Крамля не было выбару, бо з канца 2008 года паказчыкі стаўлення да дзеючай улады няўхільна зніжаюцца. Здавалася, дэлегітымізацыя ўлады займела незваротны характар. І ўсё гэта адбывалася на фоне беспрапынных карупцыйных скандалаў.

«Крым наш!» крута разгарнуў трэнды грамадскіх настрояў, але поспех быў часовы. Прапаганда вычарпала свой мабілізацыйны патэнцыял, і ківач грамадскага ўзбуджэння гатовы рушыць у зваротным накірунку. «Sic transit gloria mundi» (так мінае слава гэтага свету), гаварыў у XV ст. нямецкі філосаф Фама Кемпійскі. Хто б спрачаўся з філосафам!

## Па прынцыпе гальванічнай ванны

Для чытачоў, якія забыліся, як выглядае школьны падручнік фізікі, нагадаю, што падчас ваганняў ківача адбываюцца пастаянныя ператварэнні энергіі з аднаго віду ў іншы. У прыватнасці, кінетычная энергія ківача ператвараецца ў патэнцыйную энергію і наадварот.

Выведзены са стану раўнавагі вонкавым уздзеяннем, ківач не вяртаецца ў зыходную кропку, а, праскочыўшы яе па інерцыі, адхіляецца ў процілеглы бок ужо самастойна. Сталёвы шарык, падвешаны на тонкай нітцы, — прыклад фізічнага ківача.

Грамадства, даведзенае да стану патрыятычнай эйфарыі, — прыклад ківача сацыяльнага. Як ён функцыянуе, мы можам даведацца, зноў жа, з падручніка, але не фізікі, а гісторыі. Я не схільны паддавацца магіі круглых дат, але роўна сто гадоў таму гасудар імператар уласнаручна вывеў сацыяльны ківач са стану раўнавагі. Чым гэта скончылася, у тым ліку і для самога гасудара імператара — добра вядома.

Чым больш істотная амплітуда першапачатковага адхілення, справакаванага патрыятычнай прапагандай, тым менш шанцаў ва ўлады ўтрымаць сацыяльны ківач у пункце натуральнай раўнавагі.

Не варта выпускаць з-пад увагі і «даміналту інверсійнага прынцыпу свядомасці» ў сярэднестатыстычнага расіяніна. Для разумення гэтага прапаную чытачам уявіць гальванічную ванну, у якой вакол аднаго электрода (Пуцін) сабраліся станоўчыя іёны, а вакол іншага (Захад) — адмоўныя.

Такая канструкцыя не вельмі ўстойлівая, і па дасягненні нейкага крытычнага пункту адбываецца інверсія, г.зн. перакадзіроўка полюсаў. Хто быў нікім пры гэтым можа стаць усім, але магчыма і адваротнае. Як тут ні прыгадаць лёс Ельцына, які атрымаў 91,53% галасоў масквічоў у 1989 годзе на выбарах народных дэпутатаў СССР і які скончыў сваю палітычную кар'еру з рэйтынгам на ўзроўні статыстычнай памылкі.

Гісторык Аляксандр Ахіезер пад інверсіяй разумеў пераасэнсаванне той ці іншай з'явы як зла, што з'яўляецца адначасова адыходам ад асэнсавання яе як дабра і наадварот. Інверсія выяўляецца праз масавы выбух народнага абурэння, скіраваны на тое, каб знішчыць усіх, хто разбурае звыклыя формы жыцця.

У якія канкрэтна тэрміны адбудзецца перакадзіроўка полюсаў расійскай гальванічнай ванны — я прадказаць не бяруся. Але той, хто прымае сёння рашэнні ў Крамлі, прыклаў нямала намаганняў, каб яе наблізіць.

# Мемарыялізацыя мінулага: Трасцянец

Генадзь КЕСНЕР

**Беларускія гісторыкі, а таксама прадстаўнікі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Яханэса Раў вярнуліся з Польшчы і Германіі, дзе наведвалі мемарыялы на месцах масавых знішчэнняў людзей падчас Другой сусветнай вайны. Вандроўка была звязана з падрыхтоўкай перасоўнай выставы, прысвечанай самаму буйному канцлагеру на тэрыторыі Беларусі — Трасцянцу.**

Згодна з рашэннем беларускіх уладаў у згодзе з кіраўніцтвам Германіі, праз некаторы час на тэрыторыі Трасцянца мае паўстаць паўнавартасны мемарыяльны комплекс. У гэтым месцы, толькі па афіцыйных звестках, падчас акупацыі Беларусі гітлераўцамі было знішчана больш за 206 тысяч мірных грамадзянаў, у тым ліку не толькі нашых суайчыннікаў-габрэяў, не толькі цывільных беларусаў, рускіх, палякаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, што жылі на нашай зямлі, але і габрэяў з Германіі, Польшчы, Аўстрыі. А таксама ваеннапалонных. Печам крэматорыяў было ўсё адно, каго жэрці сваім полымем.

Дырэктар ІВВ Віктар Балакіраў нагадаў, што сёлета 8 чэрвеня на тэрыторыі былога лагера смерці Трасцянец адбылася закладка капсулы з пасланнем нашчадкам, што фактычна дало старт стварэнню паўнавартаснага мемарыяла. Сярод першых мерапрыемстваў, якія мяркуюцца да 70-годдзя перамогі над фашызмам, мусіць быць узвядзенне Брамы памяці.



У той жа час, па словах Балакірава, у нямецкага партнёра Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра — Дортмундскага ІВВ узнікла ідэя стварыць перасоўную выставу, прысвечаную Трасцянцу, і паказаць яе ва ўстановах адукацыі Беларусі і Германіі, а таксама ў музеях, каб пазнаёміць грамадскасць краінаў з гісторыяй гэтага канцлагера. «Міністэрства замежных справаў ФРГ выдаткавала сродкі для распрацоўкі канцэпцыі гэтай выставы, дзеля чаго створаны творчы калектыў, які складаецца з беларускіх і нямецкіх гісторыкаў, музейных работнікаў, што мусяць аб’яднаць свае высілкі і досвед таго, што мы маем у плане культуры ваеннай памяці, і стварыць канцэпцыю гэтай выставы. Гэта першы этап», — распавёў беларускі дырэктар Мінскага ІВВ. Калі канцэпцыя будзе ўхвалена нямецкім МЗС, трэба будзе падаваць заяўку на фінансаванне падрыхтоўкі і правядзення самой выставы.

Беларускія навукоўцы, якія вырашылі далучыцца да праекта перасоўнай выставы аб Трасцянцы, з дапамогай і з ініцыятывы Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (ІВВ) набывалі досвед у гэтай справе на тэрыторыі Польшчы і Германіі, дзе знаходзіліся найбуйнейшыя ў Еўропе канцлагеры, колькасць ахвяраў у якіх пералічвалася на сотні тысяч і нават на мільёны чалавечых жыццяў. Сярод удзельнікаў праекта — гісторык Сяргей Новікаў (Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт), супрацоўнік музея Вялікай Айчыннай вайны Наталля Яцкевіч, кіраўнік Гістарычнай майстэрні Кузьма Козак, доктар гістарычных навук Аляксей Літвін, прадстаўнік творчай майстэрні, якая займаецца праектам мемарыялу ў Трасцянцы, Галіна Левіна, гісторык Аляксандр Далгоўскі.

«Гэтая вандроўка нам дала шмат досведу ў захаванні фактаў, форм, вобразаў у мемарыялізацыі тых фактаў мінулага, пра якое мы вядзем гаворку, — кажа гісторык Сяргей Новікаў. — Мемарыялізацыя ваеннага мінулага — адна з самых складаных тэмаў, асабліва ва ўмовах сённяшніх розных падыходаў да гэтай тэмы з боку беларускіх, нямецкіх і расійскіх гісторыкаў. Нам трэба знайсці залатую сярэдзіну і адлюстраваць яе ў нашай канцэпцыі».

У сваю чаргу, Наталля Яцкевіч адзначыла, што музей Вялікай Айчыннай вайны валодае ўнікальнай калекцыяй аўтэнтычных прадметаў з лагера смерці Трасцянец. «Гэтыя рэчы былі вывезеныя супрацоўнікамі музея яшчэ ў 1944 годзе адразу пасля вызвалення Мінска ад гітлераўскіх войскаў, таму нам ёсць што паказаць. Мне падчас нашай паездкі было вельмі важна сустрэца з нямецкімі гісторыкамі, бо да 90-х гадоў наша гістарычная навука па Другой сусветнай вайне развівалася паралельна — Германія сама сабе, а мы — самі сабе», — адзначыла спадарыня Яцкевіч.

Па словах гісторыкаў, выстава мусіць быць пранікнёнай і даходлівай да ўсіх, хто яе ўбачыць. Таму што нават у Еўропе небагата тых, хто ведае пра Трасцянец. Калі ўсё складзецца добра, то перасоўная выстава пра лагер смерці Трасцянец пачне працаваць ужо ў верасні наступнага года.

# «Худыя гады» Юрыя Дракахруста

Сяргей ПУЛЬША

**Сабраць у адным памяшканні занятых экспертаў: палітолагаў, сацыёлагаў, культуролагаў і іншых разумных людзей змагла прэзентацыя кнігі аналітыка «Радыё Свабода» Юрыя Дракахруста «Сем худых гадоў», выдадзеная ў серыі «Бібліятэка «Свабоды».**

На прэзентацыі быў увесь аналітычны бамонд Беларусі: палітолагі Сяргей Нікалюк, Аляксандр Класкоўскі, Валер Карбалевіч, міжнародны аглядальнік Андрэй Фёдараў, сацыёлаг Алег Манаеў, аналітык Валерыя Касцюгава, былы міністр працы Аляксандр Сасноў — усіх не пералічыць. І кніга Юрыя Дракахруста такой увагі вартая. Гэта ўнікальнае выданне для сённяшняга часу.



Аўтар відавочна задаволены тым, якой атрымалася ягоная кніга

Унікальнае, па-першае, таму, што ў сучаснай Беларусі ўсё менш і менш выходзіць менавіта аналітычных матэрыялаў. Раней гэтым займаліся НІСЭПД, аналітычны цэнтр «Стратэгія», іншыя экспертныя групы. Зараз рэгулярнае выданне, падаецца, толькі адно — «Беларускі штогоднік», які выдае экспертная суполка, згуртаваная вакол сайта «Наше мнение». Таму кніга аналітыкі Дракахруста — сапраўдная падзея для гэтай супольнасці.

Па-другое, кніга — не толькі пра Беларусь і беларускую ментальнасць. Гэта такая вытрымка віру падзеяў, якія адбыліся ў краіне і па-за яе межамі, але моцна ўплывалі на яе за сем гадоў. Аднак унікальнасць кнігі яшчэ і ў тым, што гэта — старонні погляд. Ужо 14 гадоў Юры Дракахруст працуе ў офісе «Свабоды» ў Празе, і таму на яго не цісне цяжар удзельніка падзеяў. Такі погляд звонку, без падсвядомага жадання камусьці спадабацца, надае кнізе асаблівы каларыт. Як прызнаўся сам Дракахруст, у сваіх блогах і ў каментарах ён спрачаўся не толькі з дзяржаўнымі ідэолагамі, але і з «калегамі па цэху».

Так, гэта выданне — зборнік блогаў Юрыя Дракахруста, якія ён пісаў для сайта «Свабоды». Гэтым яно таксама каштоўнае. Як адзначыў падчас прэзентацыі Аляксандр Класкоўскі, гэта вялікая праца, таму што газета жыве адзін дзень, а блогі — і таго меней. Блог — гэта пазіцыя аўтара, і часцяком блог пішуць, абы нешта накрэмзаць. Дык Юры Дракахруст не проста «не накрэмзаў», але і творча падышоў да стварэння кнігі, дадаўшы ў яго водгукі чытачоў на свае тэксты і палеміку з чытачамі.

Зразумела, што кніга — не для «сярэдняга чытача». «Дракахруст — цяжкі аўтар, ён не для тых, хто любіць лёгкія схемы: «Тут свае, а там чужыя, тут мы, а там — злачынны рэжым», — адзначыў Класкоўскі. Магчыма нават, па ягоным меркаванні, у кагосьці гэтая кніга выкліча і кагнітыўны дысананс — у тых, хто прызвычаіўся бачыць свет чорна-белым.

Сацыёлаг Алег Манаеў пры гэтым адзначыў выбарку чытацкіх каментароў, якія ўвайшлі ў гэтае выданне. Юры Дракахруст выбіраў не прыемныя для сабе рэчы, не "пагаджальніцкія" каменты, а наадварот — больш палемічныя, тыя, што прымушаюць задумацца. З аднаго боку, гэта дадае выданню нейкага «перчыку». З другога — сведчыць пра аб’ектыўнасць аўтара: ён не стварае для сябе «прыемнага малюнку свету». І з трэцяга — па словах Манаева, такім чынам Дракахруст не толькі сам выходзіць за межы створанага нашай уладай і часткаю грамадства «апазіцыйнага гета» ці «беларускага асяродку», — ён выводзіць з гэтых «гета» і сваіх чытачоў.

Такім чынам, чытачы і каментатары блогаў Юрыя Дракахруста сталі, у пэўнай ступені, суаўтарамі гэтага выдання.

Што асабліва прываблівае ў кнізе — гэта крытычны падыход аўтара і да самога сябе. Зразумела, аналітыка амаль немажлівая без прагнозу далейшага развіцця падзеяў. За сем год «блогаводства», ахопленага ў кніжцы, мы можам ужо сказаць, дзе аўтар меў рацыю, а дзе памыліўся ў прагнозах. І Дракахруст гэтага не хавае — у васьмі выпадках з уключаных у кнігу аналітычных матэрыялаў падзеі развіваліся не так, як прагназаваў аўтар. Дракахруст не пабаяўся ўключыць у кнігу і «няспраўджаныя прагнозы», чым паспрачаўся і з папулярным выслоўем пра тое, што «аналітык — гэта чалавек, які прагназуе сітуацыю, а потым здольны патлумачыць, чаму ягоны прагноз не спраўдзіўся».




Юрый Дракахруст з задавальненнем падпісваў свае кнігі «калегам па цэху»

І, дарэчы, гэтае выданне не «мёртвае». Яно не пра мінулае, не пра тыя падзеі, якія ўжо прайшлі і больш ніколі не вернуцца. У 34-х выпадках вынікі аналітычных прагнозаў Дракахруста яшчэ не вядомыя. Так што мы зараз можам яшчэ паўдзельнічаць у дыскусіі з аўтарам, і паглядзець, што з ягоных высноваў спраўдзіцца, а што — не.

Так, пагаджуся з Аляксандрам Класкоўскім, Дракахруст — цяжкі аўтар, чытанне ягонай кнігі патрабуе энцыклапедычных ведаў, добрай памяці на тыя падзеі, што адбываліся ў найноўшай гісторыі, і нават разумення матэматыкі (у кнізе ёсць пэўная колькасць табліц апытанак НІСЭПД, дый сам аўтар — кандыдат матэматычных навук). Але гэта толькі дадае цікавасці разабрацца: пра што ж казаў аўтар у сваім блогу? І, зразумела, уступіць з ім у палеміку.

Вольга ХВОІН

**Ва ўмовах, калі Расія ўсё больш ператвараецца ў небяспечнага суседа, востра паўстала пытанне рэформы беларускага войска. Але што гэта павінна быць за рэформа, якім чынам яна павінна павысіць баяздольнасць войска, што наогул трэба ставіць за мэту ў рэфармаванні? Адказы на гэтыя пытанні можна паспрабаваць пашукаць у рэформе грузінскага войска.**



# Абараніць ад Расіі можа ўступленне ў Еўрасаюз



Экс-міністр абароны Грузіі Дзмітрый Шашкін



Экс-намесніца дзяржміністра па пытаннях еўрапейскай і еўраатлантычнай інтэграцыі Эленэ Хаштарыа

### Найперш прэстыж

Неабходнасць супрацьстаяць вайсковай інтэрвенцыі Расіі — ёсць першасны матыў усіх маштабных рэформаў у грузінскай арміі, што праводзіліся цягам дзевяці гадоў. За гэты час грузінскае войска дарасло да ўзроўню NATO.

Цяпер грузінская армія — гэта добра ўкамплектаванае войска. Прэстыж вайсковай прафесіі істотна ўзрос за кошт як матэрыяльнага забеспячэння структуры, так і сацыяльных гарантый сем'ям вайскоўцаў. Асабісты склад грузінскага войска камплектуецца напалову тэрміновым прызывам, напалову — кантрактамі. Узброеныя сілы Грузіі ўключаюць у сябе Сухапутныя войскі, Сілы спецыяльных аперацый, Нацыянальную гвардыю, а таксама часткі і ўстановы цэнтральнага падпарадкавання.

«Калі я працавала ў Міністэрстве абароны Грузіі ў 2004 годзе, то побач з маім кабінетам жыў сабака. І там жа спраўляў свае патрэбы», — яскрава апісвае стан абарончай структуры экс-намесніца дзяржміністра па пытаннях еўрапейскай і еўраатлантычнай інтэграцыі Эленэ Хаштарыа.

Абраная ўрадам Міхаіла Саакашвілі на пачатку 2000-х гадоў у якасці ўзору заходняя мадэль арганізацыі войска застаецца арыенцірам незалежна ад таго, хто знаходзіцца пры ўладзе. Прызначаны на пасаду міністра абароны Міндэн Джанелідзэ ў пачатку лістапада заявіў: «Курс развіцця Узброеных сіл застанецца нязменным, гэта выбар грузінскага народа, гэта выбар нашага народа, ён будзе арыентаваны на еўраатлантычную інтэграцыю. Мы зробім усё для таго, каб яшчэ больш наблізіць нашу краіну да NATO, каб адбылося павышэнне сумяшчальнасці нашых Узброеных сіл з NATO, а таксама актыўна працягнуць наша супрацоўніцтва і адносіны са стратэгічным партнёрам — з ЗША, а таксама з Вялікабрытаніяй, Францыяй, Германіяй, з іншымі дружалюбнымі Грузіі краінамі».

Найперш быў істотна скарочаны штат войска, пастаўлена задача стварыць вайсковую эліту — падрыхтаваць людзей па профілю ў прэстыжных заходніх інстытутах.

«Грузінскае войска, з аднаго боку, мусіць стрымліваць цягам некалькі дзён Расію ў выпадку ваеннай інтэрвенцыі. З іншага боку, яно арыентаванае на ўдзел у міжнародных вайсковых аперацыях. Досвед удзелу грузінскіх вайскоўцаў у аперацыях у Іране, Афганістане падняў армію на абсалютна іншы ўзровень. Канешне, нам трэба развівацца далей, але войска цяпер дакладна не савецкае», — рэзюмуе Эленэ Хаштарыа.

### Ад лахманоў да NATO

Натуральна, паўстае пытанне, за чый кошт была ўзнятая грузінская абаронка? Мае суразмоўцы падкрэслівалі, што рэформы ў войску праводзіліся за грошы, якія ўрад вывеў з ценявой эканомікі. Таксама не адмаўлялі і фінансавай падтрымкі з боку Захаду, але канкрэтных лічбаў ці адсоткаў пачуць не атрымалася. Тлумачылі гэта тым, што міжнародная дапамога часта мела выгляд не наўпроставых фінансавых ўліванняў, а кансультацыйных паслуг, адукацыйных праграм і гэтак далей.

«На грузінскае войска было затрачана даволі многа грошай. У 2003 годзе армія не мела ні зброі, ні тэхнікі. Была некаторая колькасць людзей, апранутых-абутых у лахманы, якія былі годныя толькі для патрульна-паставой службы», — расказвае Дзмітрый Шашкін, экс-міністр абароны Грузіі. — Цяпер нашы вайскоўцы ўваходзяць у сілы хуткага рэагавання NATO. Армія валодае і рэсурсамі, і досведам для вядзення баявых дзеянняў. Нам сапраўды дапамагалі амерыканскія і турэцкія партнёры, гэта не сакрэт».

Дарэчы, у перыяд пасля 2003 г. Грузія паставіла рэкорд па росце ваеннага бюджэту, які ў 2003–2007 гады павялічыўся больш чым у 30 разоў, з 30 млн. долараў (0,7% ВУП) у 2003 годзе да 940 млн. (8% ВУП) у 2007 годзе. Цяперашняе кіраўніцтва падтрымлівае расходы на абарону на ўзроўні 2% ад ВУП.

З падтрымкай партнёраў Грузія мадэрнізавала старыя савецкія базы і пабудавала сучасныя, якія адпавядаюць стандартам NATO (у Сэнакі і Горы), стварыла школу падрыхтоўкі горных стралкоў, абсталявала навучальны цэнтр паблізу Тбілісі.

Дарэчы, у 2008 годзе Грузія правяла рэферэндум, на якім 77% выбаршчыкаў прагаласавалі за далучэнне да NATO.

### Стрымліваючы фактар для Расіі

«Падзеі ва Украіне пасля падпісання дамовы аб асацыяцыі з ЕС паказалі, што наступнымі сталі наўпроставыя ваенныя дзеянні з боку Расіі. Тым не менш, Грузія не адмовіцца ад сваёй мэты і будзе крок за крокам ісці ў Паўночнаатлантычны альянс. У краіне створаныя важныя інструменты, якія дазваляюць нам весці сталы дыялог з NATO, у прыватнасці, гэта камісія «Грузія — NATO». Апошні саміт NATO дакладна абазначыў, што праблемай бяспекі Еўропы ёсць Расія», — тлумачыць экс-намесніца дзяржміністра па пытаннях еўрапейскай і еўраатлантычнай інтэграцыі Эленэ Хаштарыа.

Але пры стаўленні да Расіі як да агрэсара і патэнцыйнага акупанта грузіны вельмі спакойна камунікуюць з расіянамі, калі тыя — турысты і госці, а не ўзброеныя салдаты з пастаўленымі задачамі.

Я прасіла прыгадаць свае ўражанні ў жніўні 2008 года і высокапастаўленых чыноўнікаў таго часу, і звычайных абывацеляў, але ніхто не выгукнуў са злосцю: «Праклятыя рускія!».

«Было вельмі страшна, вельмі, — расказвала гандлярка ў краме. — Але куды бегчы? Сабраліся некалькі сем'яў, сядзелі, чакалі, што будзе...»

«Асабіста ў мяне было моцнае пачуццё крыўды, што ўжо які раз... Я памятаю свайго дзядулю, які быў расстраляны ў часы СССР, памятаю бацьку, які ўдзельнічаў у руху вызвалення Грузіі, і як у 1989 годзе забівалі грузін на праспекце Руставелі ў цэнтры Тбілісі. І ў XXI стагоддзі нічога не змянілася. Зноў рускі салдат прыходзіць на маю зямлю і гаворыць, што мне рабіць. У нас тады было вельмі кансалідаванае грамадства, урад. Мы фактычна не выходзілі з Дома ўраду цягам месяца — працавалі. Канешне, было адчуванне, што мы змагаемся з нашмат больш магутнай сістэмай. Але дапамога, падтрымка Захаду, палітыкаў была вялікай. І гэта эмацыйна ўспрымала грузінскае грамадства», — расказвала Эленэ Хаштарыа, і, падаецца, нават тэмбр голасу ў гэтай упэўненай жанчыны змяніўся.

Эленэ Хаштарыа мяркуе, што ўсе пытанні бяспекі рэгіёна, канфліктаў з Расіяй вырашацца, калі Грузія, Украіна і Малдова ўступяць у Еўрасаюз. Без гэтага Расія заўсёды будзе імкнуцца вярнуць кантроль над гэтымі тэрыторыямі.

Экс-міністр абароны Грузіі Дзмітрый Шашкін у сваіх ацэнках менш дыпламатычны: «Адзіны фактар стрымлівання Расіі — колькасць цынкавых трун, якія яна атрымае ў выпадку рэалізацыі нейкага чарговага плана захопу. Галоўная мэта грузінскай арміі — абарона Грузіі ад Расіі. Таму адкрыта будавалася кола абароны Тбілісі. Наш праціўнік мусіць ведаць, што ён заплаціць, калі сюды прыйдзе. Цяперашні ўрад вельмі наіўны ў гэтым пытанні. Танцы, падхалімаж не зменяць Расію і не стрымаюць. Ілюстрацыя гэтага ёсць ва Украіне. Крым аддалі задарма. І добра, што хоць Данбас займеў цану. Маленькую цану, але тым не менш».

### Грошы і яшчэ раз грошы

Кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў даволі скептычна ставіцца да вайсковай рэформы Грузіі.

«Рэформы ўвогуле не было. Яны, можна сказаць, стваралі войска наноў, — адзначае Паротнікаў. — Можа, абноўленая структура і выглядае добра, але выпрабаванне канфліктам не прайшла. Грузія прайграла вайну 2008 года. Расіяне Тбілісі не ўзялі толькі дзякуючы знешняй дапамозе. Гэтая сістэма не спрацавала. Апроч абнаўлення матэрыяльнай базы, трэба ўлічваць і культурны і ментальны фактары».

Паводле меркавання Паротнікава, удзел у міжнародных аперацыях таксама не ёсць аўтаматычным пацверджаннем ідэальнасці войска. «Грузіны ўдзельнічалі ва ўсіх аперацыях сумесна з больш дасведчанымі партнёрамі, але не самастойна. Я меў камунікацыі з асобамі з ЕС, якія мелі дачыненне да рэформаў у грузінскім войску, і не магу сказаць, што яны былі надта задаволеныя вынікам. Яны зразумелі, што нельга проста праводзіць тыповыя рэформы без уліку ментальнага фактару. Мусіць быць адаптацыя, а не проста перанос практыкі», — тлумачыць эксперт.

Што тычыцца рэформаў у беларускім войску, то патрэбныя грошы і яшчэ раз грошы.

«Калі рабіць рэформы беларускага войска, то трэба пераглядаць дзяржбюджэт, рабіць яго packаразмеркаванне, — дадае Андрэй Паротнікаў. — Калі беларусам патрэбная свая дзяржава, то яе мусіць нехта абараняць. Калі ж беларусам не патрэбная свая дзяржава, то будуць абараняць чужую ў іншых межах. Ёсць дзяржава, і ёсць механізмы захоўвання яе бяспекі. Таму мусіць быць і спецслужбы, і паліцыя, і войска».

**Матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы MYMEDIA/DANIDA**

TV

## 8 СНЕЖНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**12.10** Камедыйная меладрама «12 месяцаў» (Расія).
**13.50, 15.55** Меладрама «Мядовая каханне» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**01.00** Камедыйны баявік «Анёлы Чарлі-2» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** «Ватэль». Мастацкі фільм.
**00.25** Вячэрні Ургант.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Бітва хітоў».
**15.45** «Гэта мой дом».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Сляды багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Мастацкі фільм «Сабатаж».
**22.10** Глядзець ўсім.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.10** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама-дэтэктыў» (Расія).
**12.15** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**13.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.40** «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія). Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**16.45** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**23.55** Хачу ў тэлевізар!
**00.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.35** Трагікамедыя «Вясновыя надзеі» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае». Свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.
**08.25** «Дыя@блог P.S.».
**08.50** «Насмешка». Гістарычная драма (Францыя, 1996 г.).
**10.25** Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**11.10** «Пітэр Пэн». Музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1987 г.).
**13.30** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Пітэр Пэн».
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.05** «Размовы пра духоўнае». Свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.
**14.20** «Падкідыш». Камедыя (СССР, 1939 г.).
**15.30** «Камертон». Арганістка Полацкага Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая.
**16.00** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм трэці «Праклён Эдварда Мунка». 2-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**16.45** «Дыя@блог P.S.».
**17.15** «Жаніцьба». Камедыя (СССР, 1977 г.).
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размовы пра духоўнае». Свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.
**19.10** «Скарамуш». Прыгодніцкі фільм (Францыя, Італія, Іспанія, 1963 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**23.00** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**23.35** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Зоя Курак.
**00.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Ніжні Ноўгарад» - «Цмокі Мінск».
**09.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Жанчыны.
**10.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Мужчыны.
**11.30** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**14.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Суёнсі».
**16.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Сіці» - «Эвертан».
**18.35** Авертайм. КХЛ.
**18.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Салават Юлаеў» (Уфа). Прамая трансляцыя.
**21.20** Час футболу.
**22.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Манчэстар Юнайтэд». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.35** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.05** Два на два (тэледыскусія).
**08.35** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**09.15** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**10.05** Дакументальная гадзіна: «Бэлля Віста», дак. фільм, 2012 г., Германія–Уругвай.
**11.20** ПраСвет.
**12.00** Два на два (тэледыскусія).
**12.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**13.00** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**13.40** «Варажба жарлянкі», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Германія.
**15.15** Дакументальная гадзіна: «Бэлля Віста», дак. фільм, 2012 г., Германія–Уругвай.
**16.30** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**17.20** «Час гонару», серыял.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**19.00** «Людскія справы».
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.55** Асабісты капітал.
**22.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Зоя Белахвосцік.
**22.45** «Прывід пяра», маст. фільм, 2010 г., Францыя–Германія–Брытанія.
**00.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.25** «Людскія справы».
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.25** Аб'ектыў.
**02.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**04.20** Асабісты капітал.
**04.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Павел Харланчук.

## 9 СНЕЖНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Вечар цяжкага дня.
**00.45** Сфера інтарэсаў.
**01.20** Дзень спорту.
**01.35** Камедыйны серыял «Сваты-4».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**10.00** «Жыць здорава!».
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спакуса». Тэлесерыял.
**23.10** «Як выйсці замуж за мільянера 2». Тэлесерыял.
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень спорту».
**09.35** «Такі лёс».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Мастацкі фільм «Трусіная нара».
**15.35** Татальны распродаж.
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Жаночыя сакрэты».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Кіно»: Мастацкі фільм «Сінг-Сінг».
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Меч». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.45** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**12.55** Ікра.
**13.30** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.40** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.55** Прэм'ера. Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Манака» (Францыя) - «Зеніт» (Расія). Прамая трансляцыя.
**00.45** Хачу ў тэлевізар!
**00.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.15** «Жаніцьба». Камедыя (СССР, 1977 г.).
**09.45** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.15** «Вайна пад стрэхамі». Ваенная драма (СССР, 1967 г.).
**11.45** «Сыны ідуць у бой». Ваенная драма (СССР, 1969 г.).
**13.20** «Пра тое, што помню і люблю. Ніна Ургант». Дакументальны фільм.
**13.40** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Зоя Курак.
**14.15** «Свята далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Карпілава.
**14.45** «Калейдаскоп».
**14.55** Вечар аўтарскай песні памяці тэлежурналіста Аляксандра Чуланава.
**15.50** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**16.20** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**17.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.35** «Табар ідзе ў неба». Драма (СССР, 1976 г.).
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Музычны скарб Беларусі».
**19.25** «Людзі і манекены». Мініяцюры, інтэрмедыі і маналогі ў выкананні Аркадзя Райкіна і яго трупы. 4-я серыя (СССР, 1974 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм першы (Расія, 2012 г.).
**22.25** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.50** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм другі (Расія, 2012 г.).
**00.00** «Свята далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Карпілава.
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Час футболу.
**08.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**09.40** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Салават Юлаеў» (Уфа).
**11.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Манчэстар Юнайтэд».
**13.30** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**15.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Мужчыны.
**17.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**17.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Жанчыны.
**19.30** Спорт-кадр.
**20.00** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**20.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Металург» (Македонія) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**22.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Онлайн дня.
**00.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Ювентус» (Італія) - «Атлетыка» (Мадрыд, Іспанія).

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** «Людскія справы».
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.25** Асабісты капітал.
**10.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Павел Харланчук.
**11.20** «Панна Ніхто», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**13.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**14.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.30** Аб'ектыў.
**14.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.25** Асабісты капітал.
**16.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.10** «Час гонару», серыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Суб'ектыў.
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Два на два (тэледыскусія).
**22.15** Без рэтушы: «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**22.35** Дакументальная гадзіна: «Бэлля Віста», дак. фільм, 2012 г., Германія–Уругвай.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.15** Аб'ектыў.

TV

## 10 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

#### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Дзень спорту.
**01.20** Камедыйны серыял «Сваты-4».

#### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спакуса». Тэлесерыял.
**23.10** «Як выйсці замуж за мільянера 2». Тэлесерыял.
**01.05** Начныя навіны.

#### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**09.00** «Мінск і мінчане».
**09. 35** «Цэнтральны рэгён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Мастацкі фільм «Сінг-Сінг».
**16.00** «Дарагая передача».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Жаночыя сакрэты».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Маст. фільм «Бландынка з амбіцыямі».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.35** «Меч». Серыял.

#### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**13.00** Вышэй за дах.
**13.35** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.40** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.45** Рэпарцёр.
**16.30** Хачу ў тэлевізар!
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50, 21.35** Камедыйны серыял «Універ».
**19.55** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**22.10, 00.45** Час футболу. Прэв'ю.
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Атлетык» (Іспанія) - БАТЭ (Беларусь). Прамая трансляцыя.
**01.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

#### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.10** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.15** «Табар ідзе ў неба». Драма (СССР, 1976 г.).
**09.50** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.20** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм першы і другі (Расія, 2012 г.).
**12.50** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка.
**13.15** «Калейдаскоп».
**13.25** «Музычны скарб Беларусі».
**13.35** «Музеі Беларусі». Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа.
**14.00** «Наперад у мінулае».
**14.25** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм (СССР, 1973 г.).
**15.00** «Міхаіл Савіцкі. Таямніцы біяграфіі». Дакументальны фільм.
**15.35** «Акадэмія поспеху». Дак. фільм пра выпускнікоў Ваеннай акадэміі Беларусі.
**15.50** «Стальныя зверы». Дак. фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.
**16.45** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 2-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**17.35** «Дыя@блог». «Пра мову».
**18.00** Карл Орф. «Карміна Бурана». Вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне.
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Музычны скарб Беларусі».
**19.20** «Вясёлыя Расплюеўскія дні». Камедыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм трэці (Расія, 2012 г.).
**22.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.05** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм чацвёрты (Расія, 2012 г.).
**00.20** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка.
**00.45** «Калейдаскоп».

#### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**09.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Манака» (Францыя) - «Зеніт» (Расія).
**10.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Ювентус» (Італія) - «Атлетыка» (Мадрыд, Іспанія).
**12.35** Спорт-кадр.
**13.00** Козел пра футбол.
**13.15** Хакей. КХЛ. «Віцязь» (Маскоўская вобл.) - «Дынама» (Мінск).
**15.05** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Пераходны матч. Першая гульня. ФК Віцебск - «Дняпро» (Магілёў).
**16.50** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**19.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Енісей» (Краснаярск, Расія) - «Цмокі Мінск» (Беларусь).
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Онлайн.
**00.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Рома» (Італія) - «Манчэстар Сіці» (Англія).

#### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 08.00, 08.50, 12.40, 13.40, 14.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Рэпартэр.
**08.30** Аб'ектыў.
**10.15** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** Без рэтушы: «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**11.05** «Ранча», серыял.
**11.55** Беларусы ў Польшчы.
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.10** Рэпартэр.
**14.10** Аб'ектыў.
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», 2012 г., Беларусь.
**17.10** Беларусы ў Польшчы.
**17.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.55** Зоры не спяць: Павел Харланчук.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Дамейка.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым.
**22.30** «Свабоду не стрымаць», дак. фільм, 2014 г., Германія–Беларусь.
**23.25** «Лонданцы II», серыял.
**00.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**00.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.05** Асабісты капітал.
**01.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Дамейка.
**01.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 11 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

#### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Вечар цяжкага дня.
**00.45** Сфера інтарэсаў.
**01.20** Дзень спорту.
**01.35** Камедыйны серыял «Сваты-4».

#### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спакуса». Тэлесерыял.
**23.10** «Як выйсці замуж за мільянера 2». Тэлесерыял.
**01.20** Начныя навіны.

#### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**09.00** «Прыгоды дылетанта».
**09.40** «Гарачы лёд».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Маст. фільм «Бландынка з амбіцыямі».
**15.35** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Жаночыя сакрэты».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Мастацкі фільм «Дзікі, дзікі Захад».
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Меч». Серыял.

#### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Рамантычная камедыя «Спатканне ўсляпую» (ЗША).
**12.30** «Сустрэча з ...».
**13.05** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.50** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**15.50** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.50** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Барусія М - ФК Цюрых. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.45 «Спортлато 6 з 49», 21.50 «КЕНО».
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Фіярэнціна» (Італія) - «Дынама Мінск» (Беларусь). Прамая трансляцыя.
**01.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

#### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.15** «Вясёлыя Расплюеўскія дні». Камедыя.
**09.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.05** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм трэці і чацвёрты (Расія, 2012 г.).
**12.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастачкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валяр'яны Жолтак.
**13.15** «Калейдаскоп».
**13.25** «Музычны скарб Беларусі».
**13.30** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм пра творчасць беларускага байкапісца, драматурга, сатырыка Кандрата Крапівы.
**13.55** Прэм'ера. А.Курэйчык. «Тры Жызэлі». Спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.
**16.15** «Наперад у мінулае».
**16.40** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм пяты «Плача анёл Шагала». 1-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**17.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.25** «Сіла веры».
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Музычны скарб Беларусі».
**19.10** «Авадзень». Гістарычная драма (СССР.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм пяты (Расія, 2012 г.).
**22.15** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм шосты, заключны (Расія, 2012 г.).
**22.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастачкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валяр'яны Жолтак.
**00.35** «Калейдаскоп».

#### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**09.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Атлетык» (Іспанія) - БАТЭ (Беларусь).
**10.45** Гандбол. SEHA-ліга. «Барац» (Боснія і Герцагавіна) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**12.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Рома» (Італія) - «Манчэстар Сіці» (Англія).
**14.00** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**15.35** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Пераходны матч. Другая гульня. «Дняпро» (Магілёў) - ФК Віцебск.
**17.25** Гандбол. SEHA-ліга. «Барац» (Боснія і Герцагавіна) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**18.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Днепр» (Днепрапятроўск, Украіна - «Сэнт-Эцьен» (Францыя). Прамая трансляцыя.
**21.55** Авертайм.
**22.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Янг Бойз» (Швейцарыя) - «Спарта» (Прага, Чэхія). Прамая трансляцыя.

#### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 08.00, 08.50, 12.45, 13.45, 14.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Асабісты капітал.
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.30** Аб'ектыў.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым.
**11.00** «Свабоду не стрымаць», дак. фільм, 2014 г., Германія–Беларусь.
**11.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Іван Луцкевіч.
**12.05** «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», 2012 г., Беларусь.
**13.15** Асабісты капітал.
**13.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**14.15** Аб'ектыў.
**16.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.20** «Ранча», серыял.
**17.10** «Лонданцы II», серыял.
**17.55** Моўнік: Лексікаграфічныя дасягненні.
**18.10** Без рэтушы: «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Рэпартэр.
**22.10** Відзьмо-невідзьмо.
**22.40** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 1.
**23.40** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**00.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.50** Два на два (тэледыскусія).
**01.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.50** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

TV

## 12 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45 Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Шчаслівы Пашка» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладрама «Шчаслівы Пашка» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны баявік «Людзі Ікс».
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Камедыйны серыял «Сваты-4».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фаззэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Вучыцца жыць».
**14.40** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Высокі бландын у чорным чаравіку». Мастацкі фільм.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Чорна-белае».
**22.10** Голас.
**00.35** «Вячэрні Мінск».
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Добры дзень, доктар».
**09.35** «Далёкія сваякі».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Мастацкі фільм «Дзікі, дзікі Захад».
**15.50** «Дарагая перадача».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Мастацкі фільм «Шалёныя грошы».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**00.15** «Вялікая гульня». Покер.
**01.00** Мастацкі фільм «Лавец сноў».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Капейка ў капейку.
**11.25** «Турыст».
**12.15** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**13.25** Біятлон. Этап кубка свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.55** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**15.50** Вось дык так!
**16.25** Біятлон. Этап кубка свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Фантастычны баявік «Драпежнік-2» (ЗША).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.15** Рэпарцёр.
**00.05** Псіхалагічны трылер «Незнаёмы» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабрананак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.15** «Авадзень». Гістарычная драма (СССР, 1955 г.).
**09.50** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.20** «Жыццё і лёс». Ваенная драма. Фільм пяты і шосты, заключны (Расія, 2012 г.).
**12.50** «Персона». Андрэй Федарцоў.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.10** «Музычны скарб Беларусі».
**13.20** «Сіла веры».
**13.45** «Аўтограф». Тэатр танца «Алексіс» Палаца культуры ААТ «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод».
**14.10** Мультфільмы.
**14.40** «Музеі Беларусі». Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа.
**15.10** «Свет прыроды». Воўк па мянушцы Тэр.
**15.20** «Вочы вады. Ігар Шкляры Шклярэўскі». Дакументальны фільм.
**15.50** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**16.20** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм пяты «Плача анёл Шагала». 2-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**17.05** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**17.45** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь. Мастацкі кіраўнік - народны артыст Беларусі Валянцін Дудкевіч.
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.25** «Музычны скарб Беларусі».
**19.35** «Плач пералётнай птушкі». Драма (СССР, 1990 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Звычайны злачынца». Крымінальная камедыя. (Вялікабрытанія, Германія, Ірландыя, ЗША, 1999 г.).
**22.30** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**23.10** «Камертон». Народны артыст Расіі, рэжысёр Маскоўскага тэатра на Паўднёвым Захадзе Валерый Беляковіч.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Авертайм.
**08.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Янг Бойз» (Швейцарыя) - «Спарта» (Прага, Чэхія).
**10.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Фіярэнціна» (Італія) - «Дынама» (Мінск, Беларусь).
**12.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Барусія» (Германія - «Цюрых» (Швейцарыя).
**13.50** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Днепр» (Днепрапятроўск, Украіна - «Сэнт-Эцьен» (Францыя).
**15.40** Фактар сілы.
**16.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Спрынт. Жанчыны.
**17.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**18.40** Авертайм. КХЛ.
**18.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Авангард» (Омская вобл.). Прамая трансляцыя.
**21.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Спрынт. Жанчыны.
**23.00** Піт-стоп.
**23.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Спрынт. Мужчыны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Рэпартэр.
**10.40** Відзьмо-невідзьмо.
**11.10** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 1.
**12.10** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**12.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.15** Два на два (тэледыскусія).
**13.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.20** Аб'ектыў.
**14.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.05** Рэпартэр.
**16.35** Відзьмо-невідзьмо.
**17.35** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**18.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Уладзіслаў Сыракомля.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапернік ці супернік?.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** ПраСвет.
**22.20** «Необъявленная война. Записки документалиста», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**23.10** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**00.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.25** Моўнік: Сапернік ці супернік?
**01.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.05** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**03.50** ПраСвет.

## 13 СНЕЖНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Існасць.
**07.10** Слова Мітрапаліта Паўла.
**07.20** Меладрама «Ён, яна і я» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна). 1-я серыя.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.25** БеларусьLIFE.
**13.50** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.
**17.20** Меладрама «Іншая жанчына» (Украіна). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Дэтэктыўная меладрама «Алібі - надзея, алібі - каханне» (Расія).
**23.40** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна). 1-я серыя.
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Джэйн Эйр». Мастацкі фільм.
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.45** «100 мільёнаў».
**18.45** Нацыянальная музычная прэмія «Ліра».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечары».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.50** «Сястрычкі Бэнгер». Мастацкі фільм.

### ТВ

**06.00** «Студэнты-2». Серыял.
**07.10** Мастацкі фільм «Шалёныя грошы».
**09.05** «Чыстая работа».
**10.00** Іншая краіна.
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Маст. фільм «Гэтая жанчына ў акне».
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Сляды багоў».
**18.25** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Мастацкі фільм «Уцякач».
**22.30** «Зорны рынг».
**23.45** Маст. фільм «Чаму мужчыны ніколі не слухаюць, а жанчыны не ўмеюць паркавацца».
**01.30** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Мастацкі фільм «Салавей» (СССР).
**08.10** Толькі для дарослых.
**08.25** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар: Легенда пра Аангу» (ЗША).
**08.55** Беларуская кухня.
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Камедыйны анімацыйны фільм «Гнамэо і Джульета» Вялікабрытанія ЗША).
**11.05** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**12.15** Капейка ў капейку.
**12.55** Біятлон. Этап кубка свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.25** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў Расія.
**15.55** Вось дык так!
**16.25** Біятлон. Этап кубка свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.00** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Ікра.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**22.30** «Сустрэча з ...».
**23.05** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** «Плач пералётнай птушкі». Драма (СССР, 1990 г.).
**09.30** «Камертон». Народны артыст Расіі, рэжысёр Маскоўскага тэатра на Паўднёвым Захадзе Валерый Беляковіч.
**09.55** «Маё кіно. Валерый Панамароў».
**10.20** «Траянскі конь». Сатырычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1980 г.).
**12.15** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Музычны скарб Беларусі».
**13.05** «Ехалі ў трамваі Ільф і Пятроў». Камедыя (СССР, 1971 г.).
**14.10** «Золатавалоска». Музычная казка (Чэхаславакія, 1988 г.).
**15.40** «Калейдаскоп».
**15.50** «Музычны скарб Беларусі».
**16.00** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі слуцкіх паясоў.
**16.20** «Сяргей Рагожын. З музыкі і святла...» Дакументальны фільм пра музыканта, заслужанага артыста Расіі.
**16.50** «Рудольфія». Кароткаметражны фільм (СССР, 1969 г.).
**17.10** Святочны канцэрт, прысвечаны заснаванню Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь.
**18.35** «Дыя@блог P.S.».
**19.00** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 22-я і 23-я серыі (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**20.45** Калыханка.
**21.20** «Уся каралеўская раць». Драма (Германія, ЗША, 2006 г.).
**23.25** «Зорку за сцінгер». Дакументальны фільм. Драматычныя старонкі ваенных дзеянняў у Афганістане ў 1986 годзе.
**00.10** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**08.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Авангард» (Омская вобл.).
**10.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Спрынт. Жанчыны.
**12.20** Піт-Стоп.
**12.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**13.20** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**15.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**15.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Нёман» (Гродна) - ХК Гомель. Прамая трансляцыя.
**18.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лестэр» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**20.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд гульнявога дня.
**20.55** Гандбол. SEHA-ліга. «Нексе» (Харватыя) - БГК ім. Мяшкова Беларусь. Прамая трансляцыя.
**22.35** Формула-Е. Гран-пры Уругвая.
**23.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Ньюкасл».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапернік ці супернік?
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.50** Казкі для дзетак: «Мядзведзік Фантазік», «Польскія казкі і паданні».
**11.35** «Лонданцы ІІ», серыял.
**12.25** «Час гонару», серыял.
**13.15** Без рэтушы: «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**13.30** Два на два (тэледыскусія).
**14.00** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Алеся Камоцкага і Андрэя Мельнікава.
**14.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**14.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.20** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знак націску: капрыз ці неабходнасць?
**16.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.40** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 1.
**18.40** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**19.30** «Необъявленная война. Записки документалиста», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**20.15** Форум (ток-шоу): Беларускія барыкады.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.45** Суботні сеанс: «Рыса», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Павел Харланчук.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 14 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Дэтэктыўная меладрама «Алібі - надзея, алібі - каханне» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна). 2-я серыя.
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Таямніцы следства.
**13.50** Каробка перадач.
**14.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу!
**17.15** Меладрама Лясное возера «(Украіна).
**19.05** Лірычная камедыя «Начны госць» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** Меладрама «Ён, яна і я» (Расія).
**00.15** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна). 2-я серыя.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Легенды Live».
**13.25** «Тэорыя змовы».
**14.20** Я люблю Беларусь.
**15.30** «Здабытак Рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Здабытак Рэспублікі».
**18.05** «Ледніковы перыяд».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**22.00** Міс Свету-2014.
**23.50** «Што? Дзе? калі?».

### СТВ

**06.30** «Студэнты-2». Серыял.
**07.20** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.40** Мастацкі фільм «Уцякач».
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.05** Маст. фільм «Дзяржаўны злачынец».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М. Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Маст. фільм «Маленькі вялікі салдат».
**22.35** «Пякельная кухня-2».
**23.55** Мастацкі фільм «Чорныя матылькі».
**01.35** «Вялікія таямніцы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Вышэй за дах.
**07.25** Камедыйны анімацыйны фільм «Гнамэо і Джульета» Вялікабрытанія, ЗША).
**08.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.00** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.30** «Турыст».
**13.25** Біятлон. Этап кубка свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.20** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама-дэтэктыў» (Расія).
**16.25** Біятлон. Этап кубка свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.20** Фантастычны баявік «Драпежнік-2» (ЗША).
**19.30** Суперлато.
**20.20** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**22.35** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**23.50** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**00.45** «Сустрэча з ...».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 22-я і 23-я серыі (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**10.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Валянцін Каваліў.
**10.40** «Наперад у мінулае».
**11.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.55** «Калейдаскоп».
**12.10** «Музычны скарб Беларусі».
**12.15** «Дзелавыя людзі». Гістарычныя сталіцы дзелавой ініцыятывы.
**12.35** «Зорку за сцінгер». Дакументальны фільм. Драматычныя старонкі ваенных дзеянняў у Афганістане ў 1986 годзе.
**13.20** «Бусляня». Кароткаметражны фільм (СССР, 1980 г.).
**14.00** Ж.Бізэ. «Кармэн». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**16.40** «Калейдаскоп».
**16.50** «Музычны скарб Беларусі».
**17.00** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Асенні падарунак фей».
**17.25** «Асенні падарунак фей». Дзіцячы мастацкі фільм (СССР, 1984 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**19.15** «Звычайны злачынца». Крымінальная камедыя (Вялікабрытанія, Германія, Ірландыя, ЗША , 1999 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** Музыка Георгія Свірыдава. Вакальныя цыклы, рамансы, харавыя мініяцюры, музычныя ілюстрацыі да аповесці А.С.Пушкіна «Мяцеліца».
**22.40** «Культпрасвет».
**23.15** Янка Купала. «Паўлінка». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.
**00.40** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Нёман» (Гродна) - ХК Гомель.
**09.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Эстафета. Мужчыны.
**11.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Эстафета. Жанчыны.
**13.05** Гандбол. SEHA-ліга. Нексе (Харватыя) - БГК ім. Мяшкова Беларусь.
**14.35** Формула-Е. Гран-пры Уругвая.
**15.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Гонка пераследу. Жанчыны.
**16.50** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Барыс» (Астана). Прамая трансляцыя.
**19.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Ліверпуль».
**21.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Суёнсі» - «Тотэнхэм».
**23.00** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Гонка пераследу. Жанчыны.
**23.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Гонка пераследу. Мужчыны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак: «Мядзведзік Фантазік», «Чатыры бакі казак, «Польскія казкі і паданні».
**08.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял.
**09.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Два на два (тэледыскусія).
**09.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.35** Казкі для дзетак: «Мядзведзік Фантазік», «Чатыры бакі казак, «Польскія казкі і паданні».
**11.15** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**12.00** «Час гонару», серыял.
**12.50** «Необъявленная война. Записки документалиста», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**13.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знак націску: капрыз ці неабходнасць?.
**14.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**14.45** Два на два (тэледыскусія).
**15.15** «Тэра постсаветыка. Грузінская паліцыя», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**15.45** «Рыса», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.10** Форум: Беларускія барыкады.
**18.00** Зона «Свабоды».
**18.30** «Ранча», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вацлаў Ластоўскі.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дак. фільм, 2009 г., Францыя–Расія.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Паважны чалавек», камедыя, 2009 г., ЗША.
**23.50** «Свабоду не стрымаць», дак. фільм, 2014 г., Германія–Беларусь.
**00.45** «Необъявленная война. Записки документалиста», дак. фільм, 2014 г., Украіна.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афармíўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію пацвёрджання дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб.,
аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Без крыжа гэта ўжо не «Рэал»

Алег НОВІКАЎ

**Рашэнне кіраўніцтва славутага мадрыдскага клубу «Рэал» прыбраць па просьбе арабскіх спонсараў выяву крыжа з клубнага гербу выклікала неадназначную рэакцыю ў свеце.**






Змяніць сімволіку адміністрацыі «Рэалу» прапанаваў Нацыянальны Банк Абу-Дабі. Гэта было адной з умоваў для пачатку інвестыцый у клубны бюджэт (штогадовы бюджэт «Рэалу» складае каля 3 мільярдаў долараў ЗША). Як пішуць спартовыя каментатары, грошы вельмі патрэбныя адміністрацыі «Рэалу», пра што сведчыць прысутнасць на цырымоніі падпісання дамовы з банкам цэлай абоймы былых зорак «Рэалу».

Крыж з'явіўся на гербе клубу ў 1931 годзе, што выглядала абсалютна лагічна. «Рэал» перакладаецца як «каралеўскі», а іспанскія каралі заўсёды былі патронамі каталіцкай царквы. Цікава, што крыж заставаўся на гербе клубу нават у часы Народнага фронту Іспаніі, у склад якога на адным з этапаў уваходзілі камуністы. Камуністы разам з анархістамі актыўна пераследавалі Касцёл, аднак да крыжу ў іх чамусьці не дайшлі рукі. А вось банкіры з Арабскіх Эміратаў міма крыжа не прайшлі.

Дырэктарат «Рэалу» з самага пачатку быў не супраць зменаў сімволікі. Па словах аднаго з сяброў дырэкцыі, новы дызайн дапаможа клубу заваяваць сэрцы заўзятараў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Падобнае рашэнне, быццам, створыць кампраміс ідэнтычнасці сярод новых фанаў «Рэалу». Акрамя таго, арабы пагадзіліся на тое, каб у Еўропе клубная прадукцыя прадавалася з выявай крыжу. Здавалася — канфлікт уладжаны.

Аднак насуперак аптымістычным заявам клубнага кіраўніцтва, тарсіда «Рэалу» яўна не ў захапленні. Магчыма, гэта звязана з тым, што Іспанія дасюль застаецца вельмі каталіцкай краінай. Інакш бы ў сацыяльных сетках не ўспрымаліся б усур'ёз відавочныя плёткі пра тое, што наступным крокам стане ўльтыматум вядучаму гульцу Хрысціяну Ранальда. Быццам, прамусульманская адміністрацыя запатрабуе ад Ранальда абраць сябе іншае, менш правакуючае балельшчыкаў з Усходу імя. На сайтах фанатаў «Рэалу», сярод якіх традыцыйна шмат правых радыкалаў, хапае эмацыйных заклікаў расправіцца з дырэктаратам клуба.

Каталіцкія каментатары нават бачаць у рэформе клубнай сімволікі нейкі тэст на межы памяркоўнасці вернікі. Быццам, у выпадку вялай рэакцыі на знікненне крыжу з сімволікі «Рэалу», пачнецца франтальны наступ атэістаў на пазіцыі Касцёлу. Аматары прыколаў пішуць, што наступнай фазай «арабізацыі» «Рэалу» стане замена кароны на цюрбан. Вядучая іспанская правая газета «ABC» мяркуе, што сваім учынкам дырэкцыя клубу давяла, што «хрысціянская цывілізацыя баязлівая, слабая, амаральная і карумпаваная».

На інтэрнэт-форумах, куды пішуць не фанаты, а звычайныя абывацелі, галоўным чынам сумна канстатуюць — грошы дыктуюць усё. Некаторыя нават прапануюць кіраўніцтву «Рэала» размясціць на месцы крыжа сімвал долару, што павінна сімвалізаваць прадажны характар сучаснага прафесійнага спорту. Часта нават атэісты і не заўзятары «Рэалу» спачуваюць тыфозі мадрыдскай каманды: «Вельмі сумна становіцца ад усяго гэтага па шматлікіх прычынах. Нельга так грэбаваць часткай гісторыі клубу толькі таму, што вам шмат плацяць. Гэта падобна на продаж душы клубу. Я ні хрысціянін, ні сапраўдны фанат Мадрыд... Але калі б я быў на іх месцы, мне было б рэальна сорамна!».

Калі верыць ізраільскім СМІ, якія традыцыйна крытыкуюць рэжымы з Персідскай затокі, рэформа сімволікі «Рэалу» не спадабалася іспанцам і еўрапейцам з-за цяперашняга інфармацыйнага фону. Фразеалогія наконт неабходнасці міжрэлігійнай талерантнасці кепска пасуе навінам з Блізкага Усходу, дзе ісламскія тэрарысты пераследуюць сяброў хрысціянскай грамады Іраку і Сірыі.

Праціўнікі новага гербу таксама актыўна распаўсюджваюць інфармацыю пра стан талерантнасці ў ААЭ. Напрыклад, амаль усе праваабарончыя арганізацыі прызнаюць, што ў некаторых эміратах, што ўваходзяць у ААЭ, сістэматычна парушаюцца міжнародныя нормы рэлігійных свабодаў. «Урад ААЭ забараняе сваім грамадзянам пераход у іншую веру, існуе крымінальная адказнасць за распаўсюд неісламскай рэлігійнай літаратуры, закон пераследуе за публічную дэманстрацыю крыжа», — піша амерыканскае выданне «Algemeiner».

Праўда, сустракаюцца і аптымісты. Яны спадзяюцца, што праблема з крыжам мае часовы характар. Паводле тэксту падпісанай дамовы, тэрмін супрацоўніцтва «Рэалу» з Нацыянальным банкам Абу-Дабі абмежаваны трыма гадамі. Пасля гаспадары «Рэалу», маўляў, могуць вярнуць старую сімволіку.

Аднак большасць каментатараў баяцца, што супрацоўніцтва працягнецца і пасля скончэння гэтай дамовы. У кіраўніцтве мадрыдскага клубу даюць зразумець, што хацелі б падключыць арабаў да праекту перабудовы клубнага стадыёну. У такім выпадку можа паўтарыцца гісторыя, што мела месца ў Вялікабрытаніі. Там арабскія фірмы таксама фінансавалі спартовыя канструкцыі англійскіх клубаў, у выніку чаго стадыёны змянілі назву ў гонар замежных кампаній. Так, вядомы лонданскі клуб «Арсенал» гуляе сёння на стадыёне «Emirates».

У іспанскай прэсе хапае плётак, паводле якіх прадстаўнікі каралеўскай сям'і Абу-Дабі, якая кіруе ў ААЭ, не супраць інвеставаць у рэканструкцыю спартовага комплексу клубу «Рэал» у Мадрыдзе. Галоўным інвестарам будзе выступаць кампанія International Petroleum Investment Company (IPIC), што належыць каралеўскай сям'і. Пры гэтым інвестары, каля верыць розным журналісцкім плёткам, жадаюць, каб у назве новага аб'екта фігуравала імя аднаго з сябраў каралеўскай дынастыі. Для прыхільнікаў «Рэалу» гэта вялікая трагедыя. Санцьяга Бернабеу — дырэктар «Рэалу» (1943–1978), імя якога носіць галоўны стадыён, лічыцца стваральнікам легенды клубу. Пры ім мадрыдскі клуб на працягу пяці гадоў запар (з 1956 па 1960) выйграваў кубак чэмпіёнаў. Аматары жартаў ужо прапанавалі кампрамісную назву стадыёну — Саладзін Бернабеу (Саладзін — сярэднявечны арабскі герой, які змагаўся з крыжакамі).

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У гэтых умовах рэкамендую Мінску моцна задумацца. Наступным пад удар трапляе ён. У выпадку падзення цяперашняга рэжыму ў РФ Лукашэнка павінен выступіць як выратавальнік аб'яднанай краіны і заняць Маскву сіламі сваёй арміі са стварэннем адзінай дзяржавы «Белая Русь — РФ». Разумею, што Лукашэнка такога баіцца. Але калі ён не рашыцца, то смута захопіць і яго рэспубліку. Калі спалохаецца дзейнічаць, значыць — ад лёсу не сыдзеш.

**«Форум-МСК» (Расія)**

У структуры, якая афіцыйна займаецца ваенным забеспячэннем незалежнасці, змяніўся кіраўнік. На месца звольненага ў запас генерала Юрыя Жадобіна прыйшоў не асабліва вядомы публіцы генерал-маёр Андрэй Раўкоў. У першыя дні пасля прызначэння экспертамі адзначалася беларускае паходжанне Раўкова — па традыцыі, сілавікамі ў Беларусі становяцца людзі, якія стартавалі за межамі тады яшчэ БССР. Але развагі пра прарасійскія або прабеларускія погляды ў выпадку з міністрам абароны не маюць падстаў. Гэта чарговы тэхнічны міністр, значыць, цалкам зразумела, што ён будзе дзейнічаць толькі ў рамках той стратэгіі і тых пажаданняў, якія выкажа Аляксандр Лукашэнка. Шэры непрыкметны служака, які будзе праваднікам волі першай асобы — і ўсё.

**«RFI» (Францыя)**

Захаваныя савецкія перажыткі перашкаджаюць Беларусі рухацца па шляху дэмакратычных пераўтварэнняў. Часта заяўленыя мадэрнізацыйныя працэсы такімі на самай справе не з'яўляюцца.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Мытны саюз трашчыць па швах, — канстатуюць эксперты. Прычынай таму назіральнікі ў Мінску называюць ігнараванне Расіяй раней прынятых трохбаковых дамоўленасцяў, індывідуальнае прыняцце рашэнняў. У прыватнасці, па харчоваму эмбарга, выкананць якое пры адсутнасці межаў паміж краінамі Мытнага саюза практычна нерэальна. Каментуючы пагрозы Лукашэнкі аб мерах у адказ, эксперты зноў пагаворваюць пра перспектывы тармажэння еўразійскай інтэграцыі. Расіі прыйдзецца саступіць, інакш і Беларусь, і Казахстан могуць даць задні ход Еўразійскаму саюзу.

**«Независимая газета», (Расія)**

Сам Лукашэнка ніколі не быў нацыяналістам, і цяпер ім не з'яўляецца. Проста, як чалавек з велізарнай інтуіцыяй, ён разумее, што для ўмацавання ўлады ў дадзены момант трэба падбіраць нацыянальным пачуццям актыўнай часткі беларусаў, а большасці выказаць, што «мы ўсё ж такі асобны народ, якім кіруе правільны правадыр». І такія прэзідэнцкія гульні з нацыяналістычнымі настроямі выбіваюць глебу з-пад ног апазіцыі і нацыянальнай інтэлігенцыі, бо раней і тыя, і іншыя прасоўвалі сябе як абаронцаў усяго нацыянальнага беларускага насуперак Лукашэнку».

**Газета.ру (Расія)**

Бюракратыя постсавецкай рэспублікі, дзейнічаючы ў мэйнстрыме «беларусізацыі», робіць «чарговую спробу распілаваць будучы бюджэт», падрыхтаваны з улікам неспрыяльнай эканамічнай кан'юнктуры ў 2015 годзе і рызыкаў прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Гэта пацвярджаецца тым, што на патрыятычную адукацыю і гуманітарныя навукі ў рэспубліцы новых асігнаванняў не прадугледжана — у праекце толькі расплывістыя фразы.

**«РЭГНУМ» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Адзіную ў СНД ісламскую партыю забаранілі

Кіраўніцтва Таджыкістана, мяркуючы па ўсім, вырашыла закрыць Партыю ісламскага адраджэння Таджыкістана (ПІАТ) — вядучую апазіцыйную партыю ў краіне. ПІАТ вядомая таксама тым, што гэта адзіная ў краінах СНД зарэгістраваная партыя ісламістаў. Пайсці на рэгістрацыю Душанбэ ў свой час прымусіла грамадзянская вайна, калі постакамуністычны рэжым змагаўся з ісламістамі. У выніку бакі дамовіліся аб міры, адной з умоваў якога была рэгістрацыя «адраджэнцаў». І вось амаль праз 20 гадоў пасля той дамовы рэжым нечакана знайшоў у дзейнасці ПІАТ прыкметы экстрэмізму. Па словах мясцовай Акадэміі навук, ПІАТ падобная на структуры Аль-Каіды або Талібану. Такая ацэнка вельмі дзіўная, асабліва з улікам таго, што ПІАТ за апошнія часы вырадзілася ў нейкі агульны апазіцыйны клуб. Лагічным следствам такой эвалюцыі стала высоўванне на апошніх выбарах прэзідэнта кандыдата-жанчыны, якая ішла з сацыял-дэмакратычнай праграмай. Хутчэй за ўсё, прэзідэнт Таджыкістана рыхтуе маштабную палітычную зачыстку пад соусам барацьбы з пагрозай з боку афганскіх талібаў. Між тым, высвятляецца, што ніякіх заяў супраць ПІАТ таджыкская Акадэмія навук не рабіла.

**Па матэрыялах таджыкскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Неанацысты атакуюць сорбаў

Сорбы (нашчадкі лужычан) — славянская меншасць ва ўсходняй Германіі, што засталася пасля татальнай германізацыі на працягу амаль дзесяці стагоддзяў. Сёння яны ўсё часцей становяцца ахвярамі гвалту з боку неанацыстаў. Пра тое, што пераследуюцца менавіта сорбы, сведчыць і арганізаваная неанацыстамі кампанія графіці, і напады на славянскія культурныя цэнтры. Дарэчы, не так даўно была атакаваная рэдакцыя мясцовай газеты «Serbske Nowiny». Па словах журналістаў — сведак пагрому, нападаючыя былі незадаволеныя тым, што нехта ў ФРГ размаўляе на славянскай, а не на нямецкай мове. Кепскае стаўленне да сорбаў пасуе традыцыі нямецкіх правых радыкалаў. У 1938 годзе сорбская мова была забароненая, а ўсе вёскі са славянскімі назвамі перайменаваныя. Лічыцца, што сорбаў выратавала ад генацыду выключна іх фанатычная вера ў касцёл. Але такой паслядоўнай кампаніі супраць сорбаў у ФРГ ніколі не было. Адзіна версія таго, што адбываецца — неанацысты нарэшце знайшлі аб'екты для нападаў, на якіх можна перакласці адказнасць за эканамічную сітуацыю ва Усходняй Германіі. Справа ў тым, што імігрантаў на гэтых тэрыторыях няшмат, і на іх адказнасць не перакладзеш.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Армія Краёва зноў дзейнічае

Першыя структуры АК паўсталі ў маі ў забытым Богам мястэчку Швіднік, што каля Любліну. Арганізатарам новай АК выступіў мясцовы дэпутат ад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Ён не хавае, што палякаў трэба рыхтаваць да партызанкі з перспектывы магчымага прыходу «зялёных чалавечкаў» Пуціна. Гэта ідэя спадабалася грамадству. Ужо каля ста тысяч фірм па ўсёй Польшчы заявілі, што гатовыя падтрымаць ініцыятывы па стварэнні рэгіянальных параміліtарных атрадаў для магчымая барацьбы з Пуціным. Не супраць адраджэння АК і Мінабароны. Усяго ў тэрытарыяльныя сілы абароны плануюць запісаць каля 800 тысяч чалавек

**Паводле польскай прэсы**



### УКРАІНА. Дзеда Мароза люстрыравалі

Упершыню ў гісторыі незалежнай Украіны на галоўнай ялінцы краіны не будзе Дзеда Мароза. Яго цалкам заменіць Святы Мікалай. Праўда, Дзед Мароз будзе знаходзіцца ў яго камандзе разам з Санта-Клаусам. Украінскія патрыёты лічаць, што гэты Новы год адродзіць традыцыю, калі з новым годам віншавалі хрысціянскі святы, а не выдумка савецкіх культуролагаў. Ідэю падтрымалі службы навагодніх віншаванняў. Цяпер, акрамя Дзеда Мароза, ёсць магчымасць замовіць да хаты і Святога Мікалая. Праўда, ёсць адна праблема. Ніхто не можа дакладна вызначыць, чым Мікалай будзе адрозніваецца ад Мароза. Некаторыя прапануюць выявіць Св. Мікалая ў вобразе кабзара, каб папросту зрабіць яму футра ў жоўта-сініх фарбах. Далей за ўсё пайшлі акторы аднаго з кіеўскіх тэатраў. На іх думку, Св. Мікалай павінен выглядаць як прадстаўнік субкультуры хіпі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Пуцін цісне на Балгарыю

Алег НОВІКАЎ

**Заява Уладзіміра Пуціна пра спыненне будаўніцтва газаправоду «Паўднёвы паток» праз нязгоду Балгарыі ўдзельнічаць у праекце, выклікала ў Сафіі дэбаты наконт геапалітычнага выбару краіны.**

Расійскі газапровод «South Stream» («Паўднёвы паток») павінен быў прайсці па дне Чорнага мора ў Бургас (Балгарыя) і далей у краіны Паўднёвай і Цэнтральнай Еўропы. Кошт праекта — 34 мільярды еўра. Яшчэ ў ліпені Балгарыя падтрымлівала праект, аднак цяпер змяніла сваё рашэнне. Калі верыць Пуціну, гэта зроблена пад ціскам ЕС.




Сваю пазіцыю Пуцін агучыў падчас візіту ў Турцыі, якая, па яго словах, павінна стаць галоўным бенефіцыярам дэмаршу балгараў. Расійскі газ у выніку пойдзе не ў Еўропу, а ў Турцыю, якая таксама атрымае правa пасля прадаваць блакітнае паліва еўрапейцам.

Прамова Пуціна выклікала сапраўдны палітычны землятрус у Балгарыі, следствам чаго можа стаць адстаўка ўрада.

Пры гэтым самае цікавае (на гэта звяртае ўвагу балгарская прэса) — тое, што афіцыйных заяў наконт спынення ўдзелу ў праекце Балгарыя не рабіла. «Няма ніводнага дакументу, які тычыцца перагляду былых дамоў з Расіяй. Балгарыя пакуль не атрымлівала ад Расійскай Федэрацыі ніякіх афіцыйных паведамленняў пра закрыццё «Паўднёвага патоку», таму сітуацыя вакол гэтага праекта застаецца складанай і трывожнай», — так 2 снежня пракаментаваў віцэ-прэм'ер Балгарыі па эканамічнай палітыцы Таміслаў Дончаў заяву прэзідэнта Расіі.

Менавіта гэты факт выклікае шмат спекуляцый наконт сапраўдных матываў пуцінскай газавай дыпламатыі.

Так выданне «Днес» лічыць, што галоўнай задачай Пуціна была адстаўка або шантаж прэм'ера Бойкі Барысава, які прыйшоў да ўлады на праеўрапейскіх лозунгах у рамках партыі «ГЕРБ». Пракладваць па марскому дну трубу ў Балгарыю, маючы там празаходні ўрад, які патэнцыйна здольны на які-небудзь антырасійскі крок, было для Пуціна б вельмі рызыкоўна. Таму яго мэта, як піша газета, заключалася ў тым, каб за кошт істэрыкі вакол газапровода даць зразумець Барысаву, што ў выпадку адмовы ад «South Stream» яго кабінет чакаюць цяжкія часы.

Часткова Пуціну гэта ўдалося. Спіч расійскага гаранта кансалідаваў апазіцыю вакол ідэі падтрымкі «Паўднёвага патоку». Балгарскія сацыялісты ўжо паабяцалі рэалізаваць праект «Паўднёвы паток» у выпадку свайго вяртання да ўлады. Некаторыя з іх нават ставяць пад пытанне сяброўства Балгарыі ў ЕС. Увогуле, для левых тэма «Паўднёвага патоку» — добрая нагода, каб перакласці на ўрад адказнасць за кепскі стан эканомікі і рост беспрацоўя. Напрыклад, калі верыць сацыялістам, у выніку рэалізацыі праекту ў краіне было б створана 5 тысяч рабочых месцаў у рэгіёнах, па якіх пройдзе газапровод (дарэчы, гэта самыя эканамічна-дэпрэсіўныя зоны ў краіне). Агучваецца таксама лічба 400 мільёнаў долараў — столькі б, быццам, мог штогод зарабляць балгарскі бюджэт за кошт транзіту.

Асуджаюць Барысава і нацыяналісты, якія прадстаўленыя ў парламенце двума фракцыямі. Іх раз'юшылі словы Пуціна пра тое, што Балгарыя не з'яўляецца суверэннай дзяржавай і цалкам падпарадкаваная ўказанням чыноўнікаў Еўракамісіі. Ультраправыя робяць акцэнт на тым, што Еўропа, і перш за ўсё Германія, крытыкуючы «Паўднёвы паток», не жадаюць згортваць «Паўночны паток», які ідзе праз Балтыку ў ФРГ. У выніку, быццам, Еўрасаюз пакідае Балгарыю на галодным газавым пайку (калі верыць апазіцыйнай прэсе, з-за вайны ва Украіне газавыя пастаўкі ў краіну скараціліся амаль удвая). Еўрафобскія настроі таксама ўзмацняе і нядаўняя згода ўраду ўзняць па просьбе Брусэля пенсійны ўзрост на 4 месяцы з наступнага года, плюс нежаданне кампенсаваць магчымыя страты, якія панясе краіна пасля адмовы ад «Паўднёвага патоку».

Аднак больш непакоіць нацыяналістаў тое, што газ цяпер прыйдзецца набываць у Турцыі (гістарычна антымусульманская і антытурэцкая рыторыка — гэта галоўныя фішкі мясцовых нацыяналістаў). Нацыяналістычная прэса палохае балгар тым, што прэферэнцый па коштах за газ з боку Анкары не будзе.

Праўладная прэса, у сваю чаргу, лічыць, што апазіцыя наўмысна апускае некаторыя тэхнічныя моманты, якія тычыцца «South Stream». «Паўднёвы паток ужо даўно стаў палітычным, а не эканамічным праектам. Няма ніякіх сумневаў, што газапровод выкарыстоўваецца Пуціным у якасці інструмента палітычнага ціску ў вялікай гульні вакол Украіны», — піша выданне «Актуальна». На думку выдання, рашэнне аб выхадзе з праекту цалкам лагічнае, паколькі балгарскі ўрад сам не разумее параметры кантракта, што яму навязвае Масква. Напрыклад, туманнай застаецца формула кіраўніцтва «Паўднёвым патокам». Масква кажа, што будзе створана сумеснае прадпрыемства, дзе 50 працэнтаў акцый атрымаюць балгары. Аднак з улікам таго, што газ у трубе будзе расійскім, відавочна, што балгарам адводзіцца роля статыстаў. У дадатак, апісаныя прынцыпы працы супярэчаць правілам для энергетычных кампаній, якія патрабуе ЕС.

Акрамя таго, нават самыя вялікія фанаты газаправоду не могуць назваць дакладную лічбу — колькі ж будзе Масква сапраўды плаціць за транзіт? «Хто-небудзь з вас пусціць у дом арандатара, не ведаючы, колькі той збіраецца плаціць за арэнду?» — задае рытарычнае пытанне выданне «Актуальна». Прэса таксама лічыць, што пазіцыя ўраду хутчэй сведчыць пра тое, што Балгарыя — суверэнная краіна, якая не жадае быць паслухмянай марыянеткай Крамля.

Праўладная прэса таксама не выключае, што галоўнай мэтай пуцінскіх гучных заяў быў зандаж маштабаў антыеўрапейскіх настрояў у Балгарыі. Як вядома, раней з'яўлялася інфармацыя пра тое, што Масква разглядае Балканы як своеасаблівую пятую калону ўнутры ЕС. «Гэта тактычны ход з боку Уладзіміра Пуціна і Расіі. Яны ніколі не адмовяцца ад праекту газапровада «South Stream». Магчымае змяненне маршруту трубапровода праз Турцыю зробіць праект у два-тры разы даражэйшым, тым самым робячы яго эканамічна неэфектыўным. Такі трубапровад ужо існуе — гэта Блакітны паток, які ідзе праз тэрыторыю Турцыі, і які не выкарыстоўваецца напоўніцу», — піша выданне «Nova».

На думку аглядальнікаў выдання «Вести», Расія нават не збіралася будаваць гэты газапровод. «Паўднёвы паток» — хімера, прыдуманая для таго, каб дыскрэдытаваць еўрапейскую палітыку на Балканах, разменная манета, ад якой Масква гатовая будзе адмовіцца, каб пралабіраваць стратэгічна больш важны для яе «Паўночны паток».

Тым не менш, нягледзячы на некаторы ўздым антыеўрапейскіх настрояў у Балгарыі, мясцовая палітычнай думка пакуль не дапускае альтэрнатывы еўрапейскай інтэграцыі.



# Вясёлка над Польшчай

Алег НОВІКАЎ

**Ці зменіць палітычны ландшафт першая ў гісторыі Польшчы перамога гея на выбарах мэра?**

Лічылася, што мясцовыя выбары ў Польшчы ўвойдуць у гісторыю з-за хаосу пасля збою электроннай сістэмы галасавання і не зразумелай некаторым выбаршчыкам кніжкі для галасавання (з-за гэтага на Памор'і, напрыклад, ледзь не да 50% бюлетэняў прызнана несапраўднымі).

Але, хутчэй, больш за ўсё гэтыя выбары запомняцца тым, што ў Слупску — горадзе ў Паморскім ваяводстве з насельніцтвам каля ста тысяч чалавек — пасля другога тура галасавання мясцовае самакіраванне ўзначаліць гей.

Знаёмцеся — Роберт Бедрань (Robert Biedroń). Роберт, якому зараз 38 гадоў, паходзіць з заштатнага прыкарпацкага гарадку Кросьне (Krośnie), дзе, па яго словах, у часы юнацтва ён не сустрэў ніводнага аднадумца. Юнацкая траўма, калі верыць словам Роберта, прынесла яму шмат пакутаў, прымусіла мяняць месца жыхарства і пачаць змагацца за правы такіх, як ён.

Да паходу ў палітыку Роберта ведалі галоўным чынам як актывіста руху абароны праў прадстаўнікоў ЛГБТ. Найбольшую вядомасць яму прынесла судовае разбіральніцтва з нейкай фанатычнай каталічкай. Аднойчы жанчына публічна заявіла, што гомасексуалізм — гэта «хвароба». Сталася так, што побач праходзіў Роберт, які сказаў у адказ: «Сама ты нацыянал-каталіцкі фашыст». Жанчына абурылася і падала на хлопца ў суд. У выніку Роберта прызналі невінаватым. Праз пяць гадоў Бедраня зноў спрабавалі асудзіць, на гэты раз за бойку з паліцыяй падчас нейкай маніфестацыі ў абарону геяў. Аднак таксама безвынікова.

У перапынках паміж грамадскай актыўнасцю і судовымі пасяджэннямі Роберт рабіў першыя крокі палітыка: выступаючы пад сцягамі эсдэкаў, рэгулярна атрымліваў на выбарах сціплыя нуль з хвосцікам працэнтаў.

На пачатку нулявых гадоў палітычная кан'юнктура кардынальна змянілася. На арэну выйшаў амбіцыйны алігарх Януш Палікот. Палікот прыйшоў у палітыку з бізнесу, добра разумеючы, што прапанова вызначаецца попытам. А незадаволены попыт сярод польскага электарату быў на антыклерыкалаў (усё дзякуючы папулярнаму тэзісу пра тое, што царква і ксяндзы вывелі з-пад падаткаабкладання свае даходы, а значыць, пераклалі на плечы грамадзян дадатковы цяжар сацыяльных выдаткаў).

**Палітолагі лічаць, што галоўным фактарам, які паўплываў на жаданне галасаваць за Роберта Бедраня, быў яго імідж адказнага палітыка і надзея на радыкальныя перамены**

Бедрань з яго рэнаме змагара з фанатычнымі каталічкамі цудоўна пасаваў крытэрыям кандыдата ад «Руху Палікота». Па выніках выбараў 2011 года яму дастаўся мандат дэпутата.

І тут адбыўся цуд. Замест таго, каб шакаваць кансерватыўных калег-дэпутатаў маналогамі пра засілле каталіцкіх нацыянал-фашыстаў, Бедрань стаў узорам дысцыпліны, парламенцкай культуры і дэпутацкай адказнасці. Па выніках мінулага года ўплывовы часопіс «Polityka» ўключыў Роберта Бедраня ў спіс дзесяці лепшых парламентарыяў краіны. Ужо ў верасні мінулага года ён пачаў думаць пра выбары ў мэры Слупска, дзе пад яго дахам паўстаў грамадскі камітэт — правобраз выбарчага штабу.

У першым туры кандыдат ад «Твайго руху» (так цяпер называецца партыя Палікота) атрымаў толькі 20 працэнтаў. Затое ў другім туры з 57 працэнтамі падтрымкі разбіў галоўнага апанента з «Грамадзянскай платформы».

Палітолагі лічаць, што галоўным фактарам, які паўплываў на жаданне галасаваць за Бедраня, быў яго імідж адказнага палітыка і надзея на радыкальныя перамены. Як жартуе прэса, новы мэр проста абаявязаны выкладваца. Менавіта ад яго залежыць нармалізацыя стаўлення палякаў да прысутнасці геяў у палітыцы. А без такіх тэктанічных рухаў у масавай свядомасці палякаў Роберт і яго партнёр ніколі не дачакаюцца часу, калі ў Польшчы легалізуюць аднаполыя шлюбы. Праўда, з іншага боку, мэру Слупска гарантавана нянавісць усіх гамафобаў Польшчы. Інтэрнэт-форумы перапоўненыя пастамі накшталт: «Гарэць табе, Роберт, у пекле».

Акрамя гамафобаў ёсць яшчэ адна праблема. Бедрань ніколі не меў вопыту удзелу ў мясцовым самакіраванні. Сам ён кажа, што гэты недахоп лёгка кампенсуецца яго напрацоўкамі на пасадзе менеджара. У дадатак ён робіць стаўку на актыў жыхароў Слупска. «Маю намер стаць пазапартыйным і апалітычным мэрам. Мой партыйны гаркам — гэта ўсе жыхары горада», — кажа ён. Па словах новага слупскага мэра, да 2020 года горад будзе проста не пазнаць.

Але значна больш цікава, як вынікі выбараў адлюструюцца на польскім палітычным працэсе. На думку палітолагаў, падзеі ў Слупску вярнулі ў вялікую палітыку Януша Палікота, чый партыйны праект дыхаў на ладан. Яго фракцыя апошнім часам страціла прыкладна палову дэпутатаў. Цяпер, дзякуючы перамозе Бедраня, да «Руху Палікота» зноў вырас інтарэс, і перш за ўсё сярод выбаршчыкаў «Грамадзянскай платформы», якія адмоўна ўспрымаюць свайго новага партыйнага лідара Еву Копач (яна замяніла Дональда Туска пасля яго сыходу на працу Брусэль). Калі Палікот зможа выкарыстаць гэты трэнд, у яго ёсць шансы на тое, каб зноў пазмагацца за праход у Сейм на парламенцкіх выбарах у наступным годзе. Такая развязка выбараў можа цалкам змяніць цяперашняе ўяўленне пра склад будучай польскай урадавай кааліцыі.

Напрыканцы застаецца адзначыць, што Слупск, які знаходзіцца побач з Гдыняй, увайшоў у склад сучаснай Польшчы пасля Другой сусветнай вайны. Засялялі яго ў тым ліку выхадцамі з былой Заходняй Беларусі. Сам Бедрань неаднаразова адзначаў, што сярод гараджан шмат нашчадкаў жыхароў Вільні і Гродна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джузепе Грыла



Італьянскі комік, лідар левай партыі «Рух пяці зорак» (M5S), адмовіўся ад сваёй пасады. У выніку ўнутрыпартыйнага галасавання вырашана перадаць кіраўніцтва партыяй у рукі дырэктарату з пяці асобаў. За такое рашэнне ў ходзе рэферэндуму ў інтэрнэце прагаласавала каля 90 працэнтаў удзельнікаў. Неабходнасць гэтага кроку Джузепе аргументаваў праблемамі здароўя і пачуццём стомленасці. Ратацыі ўлады ў партыі папярэднічаў шэраг канфліктаў паміж лідарам і парламенцкай фракцыяй, калі Грыла забараняў дэпутатам M5S галасаваць аўтаномна. Тыя ўнутраныя разборкі вельмі хутка пахавалі імідж «Руху пяці зорак», які ў 2013 годзе падтрымлівалі каля 25 працэнтаў італьянцаў (зараз іх каля 12 працэнтаў). Не дзіўна, што пасля партыя прайграла шэраг лакальных выбараў. У такой сітуацыі, на думку наглядальнікаў, бацька-заснавальнік праекту вырашыў адмовіцца ад бязмежнай асабістай улады і надаць M5S больш звычайны для італьянскіх партый фармат. Прынамсі, цяпер рашэнні партыі не будуць агучвацца на старонках персанальнага блогу Грыла, як гэта было раней. Застаецца сказаць, што крызіс левых у Італіі змяніўся інтарэсам да правых палітыкаў. Упэўніна за апошнія некалькі гадоў самым папулярным палітыкам у Італіі, па выніках апытанняў, стаў скандальны Сільвія Берлусконі, які зараз адбывае пакаранне за карупцыю.

### Кім Чэн Ын



Лідара Паўночнай Карэі можна лічыць абсалютным унікумам, паколькі яго асабістай пастановай людзям забаронена называць карэйскіх дзяцей Кім Чын Ынамі. Практыка называць дзяцей у гонар правадыроў КНДР склалася яшчэ пры дзедзе цяперашняга лідара Паўночнай Карэі. Згодна з дэкрэтам, усім дзецям, якіх паспелі назваць Кім Чын Ын (дарэчы, сярод іх ёсць і дзяўчынкі) патрэбна тэрмінова змяніць імя. Калі бацькі працягнуць называць сваё дзіця Кім Чэн Ын, іх чакае крымінальнае пакаранне за зняважу лідара дзяржавы. Цікава, што павінны змяніць імёны і тыя, хто атрымаў іх у гонар Кім Ір Сена і Кім Чэн Іра — папярэдніх лідараў КНДР. Палітолагі лічаць, што незвычайная пастанова павінна замацаваць культ новага правадыра. Дэкрэт пра імёны — гэта другі ў гісторыі асабісты дэкрэт Кім Чэн Ына. Першы тычыўся цыгарэтаў. Паводле яго, чыноўнікам забаранялася паліць цыгарэты замежных брэндаў. Кім Чын Ын як заўзяты курыльшчык сцвярджае, што чучхейскі табак — лепшы ў свеце.

### Ігар Каламойскі



Украінскі алігарх, губернатар Днепрапятроўскай вобласці, сфармаваў у Вярхоўнай Радзе сваё аб'яднанне пад назвай «Укроп». У яе ўвайшлі сябры фракцыі «Самапомачы», два дэпутаты ад групоўкі «Правы сектар», некалькі камбатаў і незалежных парламентарыяў галоўным чынам ад Днепрапятроўскай вобласці. «Укроп» з самага пачатку пачаў пазіцыянаваць сябе як апазіцыя. Так, фракцыя «Самапомачы» адмовілася галасаваць за новы кабінет Яцанюка, які падтрымалі ўсе іншыя партыі Майдану. У дадатак, лідарам групы з'яўляецца Барыс Філатаў, які напярэдадні гучна пасварыўся з лідарамі «Блоку Парашэнкі», па спісах якога трапіў у Раду. Пакуль тактычныя і стратэгічныя задачы «Укропу» не зразумелыя. Новая група можа прыцягваць да сябе сімпатыі выбаршчыкаў у выпадку падзення папулярнасці ўраду. Акрамя таго, за кошт сваёй фракцыі Каламойскі можа заблакаваць канстытуцыйныя рэформы, якія плануе Парашэнка. Быццам, прэзідэнт, памятаючы пра такі сцэнар, можа менш актыўна наступаць на актывы групы Каламойскага. Апошнім часам шмат кажуць пра тое, што паміж Кіевам і Днепрапятроўскам пачалася вайна за перадзел нерухомасці.


Юзаф Доўбар-Мусніцкі прымае парад велькапольскіх войскаў, 1919 г.


Польскі самалёт на аэрадроме Кісялевічы пад Бабруйскам


Польскія жаўнеры падчас пахавання ля кургана ў Бабруйскай крэпасці, 1919 г.

# Беларуская кампанія велькапольскай дывізіі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Мала хто ведае, што 95 гадоў таму добра падрыхтаваныя польскія вайсковыя часткі з Познані правалі бальшавіцкі фронт і захапілі шэраг ключавых гарадоў Беларусі.**


Палонныя чырвонаармейцы ў Бабруйску, 1920 год

## Жаўнеры з досведам

24 ліпеня 1919 года галоўнае камандаванне Войска Польскага звярнулася да камандуючага Велькапольскага войска генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага з просьбай перакінуць частку падначаленых яму сіл з галіцка-валынскага фронту і Заходняй Польшчы на тэрыторыю Беларусі. Варшаўскія генералы небеспадстаўна баяліся, што бальшавікі хутка разгорнуць наступленне і авалодаюць Вілейкай і Маладзечнам. З ліку велькапольскіх войскаў планавалася вылучыць пяхотную брыгаду і кавалерыйскі полк і хутка накіраваць іх на Усход. Камандзірам гэтай зводнай вайсковай групы быў прызначаны выдатны стратэг генерал Даніэль Канажэўскі.

У Беларусь накіроўваліся 3-ці стралковы полк (камандуючы — падпалкоўнік Арнольд Шылінг), 4-ты стралковы полк (маёр Оскар Брэзаны), 3-ці полк лёгкай артылерыі (падпалкоўнік Люцыян Кедзерскі), 2-я батарэя цяжкай артылерыі, 1-ы полк велькапольскіх улан (падпалкоўнік Уладзіслаў Андэрс), рота 2-га сапёрнага батальёну, 2-я авіяцыйная эскадрылля, а таксама сувязісты, палявая жандармерыя, санітарная рота і палявы шпіталь. Гэтыя вайсковыя часткі польскае камандаванне планавала выкарыстаць як мабільны, ударны кулак падчас контрнаступлення.

## Кірунак — Мінск

28 ліпеня 1919 года першыя вайсковыя падраздзяленні «велькапалян» накіраваліся ў Беларусь. Усяго для перакідвання частак было выкарыстана 33 чыгуначныя транспарты. Першапачаткова велькапольская дывізія павінна была сканцэнтравацца ў раёне Радашковічы — Краснае. Авіяцыя часова знаходзіліся на аэрадроме пад Маладзечна.

Камандуючы літоўска-беларускім фронтам генерал Станіслаў Шэпціцкі планаваў выкарыстаць войскі з Познані для наступлення на Мінск. Для гэтага была створана Аператыўная група, касцяк якой склала менавіта камбінаваная дывізія «велькапалян», якія павінны былі наступаць у трох накірунках: на Заслаўе — Дзічкі — Захарычы — Сухарава; на Сёмкаў Гарадок і на чыгуначную станцыю ў Смалявічах.

8 жніўня 1919 года пачалося наступленне. «Велькапалянам» удалося захапіць Заслаўе і ўзяць у палон некалькі соцень чырвонаармейцаў. Аднак былі страты і ў палякаў. Пад Захарычамі быў смяротна паранены камандзір артылерыстаў, падпалкоўнік Люцыян Кензерскі. Жорсткія баі былі пад Кіршамі, Шубнікамі, Дзічкамі і Варашыламі. Таксама 8 жніўня жаўнеры з Познані былі ў Сухарава. У гэты ж дзень іншыя падраздзяленні з Познані захапілі Зацань, фарсіравалі Свіслач і ўвайшлі ў Мінск з Захаду. 2-я дывізія легіёнаў, якая дзейнічала разам з «велькапалянамі», увайшлі ў Мінск з Поўначы. Сталіца БССР была ўзятая. Уланы пад камандаваннем Уладзіслава Андэрса адрэзалі стратэгічны шлях Мінск — Барысаў, у выніку значная колькасць чырвонаармейцаў трапіла ў палон. Бальшавікі спрабавалі дэблакаваць Мінск, але ім гэта зрабіць не ўдалося. Хутка абарона праходзіла па лініі Смалявічы — Дукора — Рудзенск.

## Узяць крэпасць на Бярэзіне

Наступным стратэгічным пунктам быў Бабруйск. Стратэгічны чыгуначны вузел быў патрэбны дзеля далейшага наступлення. Да таго ж тут знаходзіліся буйныя вайсковыя склады, і галоўнае — у фартах цытадэлі на Бярэзіне можна было эфектыўна абараняцца. Падчас новага наступлення жорсткія баі адбыліся ля Ігумена (зараз Чэрвень), дзе чырвонаармейцы спрабавалі контратакаваць палякаў з дапамогай бронеаўтамабіляў, і ля Рудзенска, дзе абарону бальшавікоў падтрымліваў бронецягнік. Тут 1-ы батальён польскага 3-га стралковага палка панёс значныя страты, аднак дзякуючы артылерыйскай падтрымцы палякі адбілі атакі Чырвонай Арміі і працягвалі наступаць. Хутка былі занятыя Смалявічы, Блонь і Пухавічы, а штаб велькапольскай дывізіі пераехаў у Смілавічы.

16 жніўня 1919 года генерал Даніэль Канажэўскі выдаў загад працягваць наступленне і пераследаваць часткі 68-га пскоўскага і «варшаўскага» палкоў Чырвонай Арміі. Праз два дні ўзмоцненая артылерыяй група пад камандаваннем падпалкоўніка Арнольда Шылінга пачала наступленне на Бабруйск. Другая частка велькапольскіх войскаў пад камандаваннем маёра Оскара Брэзаны наступала на Асіповічы. Тут абараняўся бальшавіцкі бронецягнік, які быў адступіць у Бабруйск. 21 жніўня палякі занялі Ясень. Праз тыдзень дывізія «велькапалян» была ўзмоцнена ротай танкаў (20 машын, камандзір — капітан Жан Дзюфур) «Рэно ФТ 17» са складу блакітнай арміі Юзафа Халера.

Бабруйск абаранялі 67-ы і 68-ы стралковыя палкі Чырвонай Арміі, два батальёны маракоў, тры бронецягнікі. У абаронцаў было толькі 4 гарматы і 27 кулямётаў. Усяго бабруйскі гарнізон налічваў каля 2500 чалавек. 28 жніўня 1919 года пачаўся штурм. Адна з груп велькапольскіх войскаў наступала на раён вёскі Панюшкавічы. Іншая сканцэнтравалася ў фальварку Дурынічы, які належаў графу Шымону Забелу. Тут жа знаходзілася артылерыя. Лабавой атакай «велькапаляне» выбілі чырвонаармейцаў з добра ўмацаваных, прыгатаваных яшчэ ў гады Першай сусветнай вайны палявых умацаванняў у прадмесці Бабруйска.

У раёне вёскі Бібкаўшчына байцы Чырвонай Арміі разгарнулі контрнаступленне і першапачаткова адкінулі палякаў, аднак тыя здолелі перагрупавацца і працягнулі наступленне. Ля ракі Ваўчанкі наступалі французскія танкі, якія падтрымлівалі велькапольскую пяхоту. Стальныя машыны знішчалі палявыя ўмацаванні чырвоных і далі магчымасць палякам знішчыць добра ўмацаваную лінію абароны бальшавікоў. Хутка быў заняты чыгуначны вакзал і крэпасць. Палякі спрабавалі працягваць наступленне, аднак бальшавіцкі бронецягнік, якія адыходзіў з горада, узарваў мост праз раку.

Трафеямі дывізіі сталі 11 гармат, 52 кулямёты, 1574 вінтоўкі, 15 палявых кухняў, 258 каней, 2 паравозы, 100 вагонаў. У палон жаўнераў з Познані трапіла, па розных падліках, каля 2300 чырвонаармейцаў.

## Усходні фарпост

У Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, а таксама Музеі Войска Польскага захавалася шмат здымкаў, на якіх мы можам убачыць велькапольскага войска на тэрыторыі Бабруйскай крэпасці. Цікава, што ў жніўні 1919 года «велькапалян» з радасцю віталі мясцовыя жыхары, а таксама праваслаўнае духавенства, якое, відавочна, пацярпела ад бальшавіцкай улады.

З архіўных дакументаў можна зрабіць выснову, што польскія вайсковыя ўлады разглядалі Бабруйск як важны стратэгічны вайсковы цэнтр. Падчас знаходжання велькапольскіх вайсковых адзінак у цытадэлі на Бярэзіне ў 1919–1920 гадах жаўнеры з Познані спрабавалі праводзіць фартыфікацыйныя работы, усталявалі вайсковы шпіталь, ажыццяўлялі культурныя і рэлігійныя мерапрыемствы. У адной з казарм Бабруйскай крэпасці камандаванне велькапольскай дывізіі распарадзілася стварыць каталіцкую капліцу, над алтаром якой візеў польскі «Белы арол» і беларуская «Пагоня». Цікавым было і тое, што палякі падтрымлівалі праваслаўныя цэрквы ў Бабруйску.

У кастрычніку 1919 года, а таксама студзені 1920 года, польскія войскі спрабавалі пераправіцца праз Беразіну і ажыццявіць наступленне на Усход. Гэтыя аперацыі суправаджаліся значнымі стратамі. У цэнтры бабруйскай цытадэлі вясной 1918 года быў пабудаваны мемарыяльны курган І-га Польскага корпуса. Менавіта ля яго хавалі і жаўнераў-велькапалян, якія загінулі ў баях з бальшавікамі. Па розных падліках, там магло быць пахавана некалькі соцень польскіх жаўнераў.

У сакавіку «велькапаляне» спрабавалі захапіць Жлобін. Аднак летам 1920 года Чырвоная Армія пачала наступленне, якое пагражала акружэнню польскай 4-й арміі, у склад якой уваходзілі і «велькапаляне». 8 ліпеня 1920 года войскі з Познані канчаткова пакінулі крэпасць на Бярэзіне...

***

У выніку польска-бальшавіцкай вайны Бабруйск застаўся за бальшавікамі. Ужо ў сярэдзіне 1920-х гадоў тыя знеслі частку пабудоў у цытадэлі і знішчылі польскі курган. Сёння дакладна вядома месца, дзе ў 1918 годзе быў пабудаваны мемарыял. Зараз там голае поле, а побач стаяць паўразбураныя казармы. Падчас будаўніцтва «Бабруйск-Арэны» ў 2008 годзе ля будаўнічай пляцоўкі былі знойдзены парэшткі людзей, нямецкая ўніформа часоў Першай сусветнай вайны, а таксама польскія эмблемы і гузікі з арлом у кароне. Атрымліваецца, што «велькапаляне» былі пахаваны і ля Мінскай брамы.

Ці ведаюць сённяшнія бабруйчане пра падзеі 1919–1920 гадоў? Нават у Бабруйскім краязнаўчым музеі няма ніводнага экспаната, які б расказваў пра «беларускую кампанію» велькапольскіх жаўнераў. Між тым, гэта не толькі польская, але і беларуская гісторыя.

# Джон Віт — шведскі місіянер беларушчыны

Сяргей ЧЫГРЫН

**Асабліва важнай падзеяй для прыхільнікаў метадызму ў Беларусі была інспекцыя метадысцкіх арганізацый, якую праводзіў шведскі месіянер Джон Віт (Ян Эмануіл Віт) у 1925 годзе. Хто ж такі гэты Джон Віт? І як яму жылося, працавалася і сябравалася сярод беларусаў?**



Джон Віт нарадзіўся ў 1885 годзе сярод зулусаў у Паўднёвай Афрыцы ў сям’і шведскага місіянера. Калі яму споўнілася сем гадоў, сям’я вярнулася на радзіму ў Швецыю. Хлопчык вельмі цікавіўся тэхнікай. Таму яго бацькі адправілі вучыцца ў Германію ў адну з вышэйшых тэхнічных школ. Школу ён закончыў і атрымаў дыплом электраінжынера. Стаў працаваць па спецыяльнасці ў Швейцарыі, Германіі, Амерыцы і Швецыі.

У 1912 годзе Джон Віт прыехаў з сям’ёй у Рыгу, куды яго са Швецыі накіравалі на фабрыку гумовых вырабаў «Праваднік» як загадчыка электрычнай цэнтралі. На фабрыцы тады працавалі 15 тысяч чалавек. Але хутка ў сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны гэта прадпрыемства было эвакуіравана ў Маскву. Усе машыны, прылады і матэрыялы пагрузілі ў сотні вагонаў і адправілі на ўсход. Але ў Маскву вагоны дайшлі не ўсе. Па дарозе многія згубіліся. Адны даехалі да Масквы, іншыя трапілі ў Архангельск, Астрахань, Брэст і нават ва Уладзівасток. Таму пра аднаўленне фабрыкі ў тым складзе, якой яна была ў Рызе, і размовы быць не магло. Тады расійскія ўлады вырашылі пабудаваць тры меншыя фабрыкі. Наладжваннем абсталявання гэтых фабрык займаўся і Джон Віт. Сваю сям’ю Джон адвёз у Швейцарыю.

У 1916 годзе Джон Віт звольніўся з «Праваднікa» і пайшоў працаваць у іншую фірму, якая мела некалькі прадпрыемстваў у Туркестане. Праз год да яго прыехала жонка з трыма дзецьмі. Але ў Туркестане сям’і жылося не вельмі соладка. Дарэчы, пазней на старонках беларускага грамадска-культурнага і літаратурна-мастацкага часопіса, органа ТБШ «Родныя гоні» Джон Віт пачаў публікаваць успаміны пра сваё вандроўнае жыццё ў Хінскім Туркестане. Артыкул «4 гады сярод туркаў і хінцоў» быў надрукаваны ў № 6 «Родных гоняў», але больш нумароў гэтага часопіса не выйшла. Таму заканчэнне ўспамінаў Джона Віта так і не з’явілася. Але, магчыма, яны друкаваліся дзесьці ў іншым віленскім выданні.

Дык вось, у траўні 1918 года ў Туркестане Джон Віт захварэў на воспу, а дачка яго — на запаленне лёгкіх, і хутка памерла. І толькі праз пэўны час, дзякуючы метадычнай царкве, Джон Віт вярнуўся ў Еўропу, дзе пачаў актыўна займацца грамадска-царкоўнай дзейнасцю. Спачатку ён прыехаў у Рыгу на пасаду дырэктара дзіцячага служэння Метадысцкай Епіскапальнай Царквы, а потым — у вёску Старое Сяло Слонімскага павета дзеля арганізацыі новых суполак.

Джон Віт шмат ездзіў па землях Заходняй Беларусі, сустракаўся з беларускімі дзеячамі, цікавіўся станам беларускага культурнага і адукацыйнага жыцця. У паездках яго часта суправаджаў Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч) — беларускі паэт, калекцыянер, музыкант і мастак са Слоніма.

У другой палове 1920-х гадоў шведскі місіянер метадыстаў вельмі часта наведваў Вільню, дзе ён сустракаўся з Радаславам Астроўскім, Браніславам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Аляксандрам Уласавым і Антонам Луцкевічам. Джон Віт цікавіўся не толькі царкоўнымі справамі, але і праблемамі беларускага нацыянальнага руху. Як піша гісторык Алег Латышонак, з гэтай пары ён стаў самым шчырым заступнікам беларусаў у царкве метадыстаў.

Джон Віт быў вельмі адукаваным чалавекам. Акрамя роднай шведскай мовы, добра валодаў англійскай, нямецкай, польскай. Ведаў рускую мову, хаця яе не любіў. Хутка пачаў вывучаць беларускую мову, стараўся на ёй размаўляць з беларусамі, вучыў і ведаў беларускія народныя песні. Сярод беларусаў яму было добра і дужа цікава. Ён адразу зразумеў праблемы беларускага люду, праблемы беларускай інтэлігенцыі. І колькі ў яго хапала сіл, стараўся дапамагаць беларусам.

Дзякуючы Джону Віту, царква метадыстаў была фундатарам школ і інтэрнатаў у Радашковічах, Вільні, Слоніме, Клецку. Віт трымаў пад кантролем беларускія гімназіі, перад ім рабілі пэўныя справаздачы, інфармавалі яго наконт беларускіх спраў на ніве адукацыі Астроўскі, Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч, Уласаў, Луцкевіч. Джон Віт пастаянна выяўляў зацікаўленасць вучэбным працэсам, становішчам вучняў і настаўнікаў, развіццём і станам школьніцтва і беларускай працы ў Польшчы, а таксама беларускім рэлігійным, культурным, нацыянальным і палітычным рухам у Польшчы. Ён вывучаў адносіны і настрой беларусаў да польскай дзяржаўнасці.



Курсы настанікаў беларускіх пачатковых школ пры Радашковіцкай беларускай гімназіі. Сядзіць другі злева Джон Віт, 1926 г.



Джон Віт (стаіць трэці справа) з выкладчыкамі беларускіх гімназій сярод беларускай інтэлігенцыі Радашковіч, канец 1920-х гадоў



Інтэрнат для вучаніц Віленскай беларускай гімназіі. У другім шэрагу пасярэдзіне сядзіць Джон Віт. Вільня, 1929 г.

Джон Віт вельмі часта бываў на Слонімшчыне, у Радашковічах, у Клецку. Аляксандр Уласаў, які ўзначальваў у 1922–1929 гадах Радашковіцкую беларускую гімназію імя Францыска Скарыны, часта запрашаў Джона Віта ў госці. А Джон прыязджаў разам з варшаўскімі метадыстамі, якія дапамагалі арганізоўваць інтэрнаты, дзе вучні маглі бясплатна харчавацца і рыхтавацца да заняткаў. Джон Віт хоць і чытаў сумныя споведзі вучням і настаўнікам, але потым вельмі хораша спяваў шведскія народныя песні, спрабаваў разам з вучнямі і настаўнікамі выконваць і беларускія народныя песні. Калектыў гімназіі за гэта яго вельмі любіў і паважаў.

У Слонімскім павеце шведскі місіянер часта сустракаўся з сябрам пратэстанцкага брацтва, прапаведнікам з Дзярэчына Янам Пятроўскім (1905–2002). У 1935 годзе Ян Пятроўскі ініцыяваў, а затым выдаваў і рэдагаваў беларускамоўны пратэстанцкі часопіс «Сьветач Хрыстовае навукі», а ў 1937 годзе выдаў брашуру «Нядзельная школа, яе сутнасць і гісторыя». І ўсё гэта не без дапамогі Джона Віта. Пра яго Ян Пятроўскі пісаў: «Першы раз я спаткаўся з Вітам у Старым Сяле ў 1931 годзе, другі раз — у 1936-м... Быў ён чалавекам энергічным, рухавым, з дарам здабыцця ўзнання для сябе і сімпатыі сярод шырокага кола беларусаў у Заходняй Беларусі».

Усе добрыя справы метадыстаў на карысць беларусаў не вельмі падабаліся палякам. Тым больш, што многія беларусы, якія шчыра сябравалі з Джонам Вітам, з’яўляліся сябрамі БСДГ ці належалі да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Польская дзяржбяспека пільна сачыла за кожным рухам і справамі, якія адбываліся з удзелам Джона Віта і беларусаў-метадыстаў. І хутка палякі прыйшлі да высновы, што дзейнасць метадыстаў сярод беларусаў наносіць шкоду Польшчы. Аб гэтым яны паведамілі ў Варшаву і папярэдзілі метадысцкі Амерыканскі камітэт. А камітэт у сваю чаргу ў 1931 годзе прымусіў Джона Віта з’ехаць.

Але перад ад’ездам Джон не мог не закончыць усе справы. Яго хваляваў пераклад Евангелля, Новага Запавету і Псалмоў на беларускую мову, а таксама выданне іх асобнымі кніжкамі. І, вядома ж, аплата перакладчыкам. А перакладчыкамі гэтых рэлігійных твораў былі Лукаш Дзекуць-Малей (1888–1955) і Антон Луцкевіч (1884–1942). 31 сакавіка 1930 года Джон Віт са Слоніма пісаў Антону Луцкевічу: «Сёння я атрымаў з Берліна ад спадара Хэйга, прадстаўніка Вялікабрытанскага і Замежнага біблійнага таварыства, ліст з пытаннем, калі скончыцца пераклад Новага Запавету. Яны вельмі жадаюць у бліжэйшы час надрукаваць яго. Я сам толькі што вярнуўся з Варшавы, дзе вырашыў, што я застаюся ў Беларусі толькі да 1-га чэрвеня гэтага года. Пасля гэтага часу я буду працаваць у Швейцарыі. Я вырашыў гэтак толькі дзеля выхавання дзяцей, для якіх няма будучыні ў Польшчы... Паколькі пасля майго ад’езду Вам будзе цяжка трымаць сувязь з Берлінам, у інтарэсах усіх было б, каб пераклад быў завершаны да 1-га чэрвеня...».

12 жніўня 1930 года Джон Віт паведамляў у пісьме Антону Луцкевічу: «Вельмі паважаны спадар Луцкевіч! Ваш ліст ад 21.VII атрымаў і зараз жа адправіў Ев. Паводле Марка ў Берлін. Дзякуй... Усё аддадзена ў Берлін, і спадар Хэйг быў вельмі рады...». 12 жніўня 1930 года шчаслівы Антон Луцкевіч піша Артуру Хэйгу: «З вялікай радасцю я атрымаў надрукаваныя ўжо асобнікі Новага Запавету і Псалмоў на беларускай мове. Брытанскае і Замежнае біблійнае таварыствы гэтым зрабіла вялікую паслугу беларускаму народу — для яго культурна-маральнага адраджэння...».

У канцы 1931 года Джон Віт пакінуў Заходнюю Беларусь і выехаў у Швейцарыю — на радзіму сваёй жонкі. Але і ў Швейцарыі ён не парываў сувязей з беларускімі грамадскімі актывістамі. Ён перапісваўся з Гальяшом Леўчыкам, Антонам Луцкевічам, Янам Пятроўскім, Лукашом Дзекуць-Малеем. І марыў яшчэ вярнуцца ў Беларусь. Але ўсе планы перакрыжавала Другая сусветная вайна.

Як склаўся лёс Джона Віта і яго сям’і пазней — застаецца загадкай. Я пісаў лісты ў Швецыю і ў Швейцарыю ў пошуках слядоў Джона Віта і яго дзяцей, але адказаў пакуль не атрымаў. Магчыма, пасля гэтай публікацыі нехта з Вітаў адгукнецца.

# Прэм’ера «Тэатра Ч»

**Зноў на беларускай сцэне «Матухна Кураж і яе дзеці» — адна з самых знакавых п’ес нямецкага драматурга Бертольта Брэхта!**

Працягваючы лінію сацыяльна значных пастановак, «Тэатр Ч» на гэты раз запрашае вас на спектакль, які дазволіць праз люстэрка мастацтва асцярожна зазірнуць у рэчаіснасць і пабачыць, што там адбываецца на самой справе.




П’еса, напісаная напярэдадні Другой сусветнай вайны пра дзеянні падчас Трыццацігадовай вайны ў Германіі (1618–1648), валодае асаблівай універсальнасцю і, на жаль, усё той жа актуальнасцю, як гады і стагоддзі таму. І зноў «вайна за веру» апынаецца полем вялікай камерцыі, і зноў высокія чалавечыя ідэалы дасягаюцца самымі бесчалавечнымі ўчынкамі. І зноў вайна вядзе да нацыянальнай катастрофы, дзе няма і не можа быць пераможцаў...

Пастаноўку спектакля, а таксама яго візуальнае вырашэнне ажыццявіць рэжысёр Міхаіл Лашыцкі. Вядомы як творца з асаблівым тэатральным бачаннем, з арыгінальным густам і еўрапейскім падыходам, ён не так часта радуе беларускага гледача сваімі працамі. Ці варта казаць, што гэты спектакль абяцае стаць сапраўднай падзеяй у тэатральным жыцці Мінска?!

У творчай камандзе — выдатны акцёрскі склад, адны з лепшых акцёраў беларускіх тэатраў: Святлана Анікей, Надзея Анцыповіч, Алена Мазгова, Алеся Самахавец, Алена Сідарава, Анастасія Шпакоўская, Алесь Аўчыннікаў, Аляксандр Бранкевіч, Генадзь Гаранскі, Генадзь Гатоўчыц, Анатоль Голуб, Міхаіл Есьман, Дзмітрый Есяневіч, Міхаіл Зуй, Валерый Кандрацьеў, Андрэй Саўчанка, Сяргей Тоўсцікаў, Іван Трус, Дзмітрый Тумас.

Але адным з галоўных дзеючых асоб стане... музыка! Жывая, аўтарская ў выкананні гуртоў «ili-ili» і «NAKA»!

Запрашаем на прэм’еру!
Квіткі: 8 (017) 284-82-28 // 8 (029)-120-5555//8 (029)-77777-54.

**Для даведкі:**

«Тэатр Ч» заснаваны ў 2013 годзе як вольная прастора для рэалізацыі смелых творчых амбіцый і для падтрымкі таленавітых рэжысёраў і акцёраў. Выкарыстоўваючы новыя формы работы і ствараючы актуальныя і запатрабаваныя пастаноўкі, тэатр імкнецца не толькі змяніць сітуацыю ў беларускай мастацкай сферы, але і ўплываць на культурнае адукацыю гледачоў. Першым, але не менш паспяховым вопытам стаў спектакль «Дзяды», сучасная інтэрпрэтацыя класічнай паэмы Адама Міцкевіча ў пастаноўцы Рамуне Кудзманайтэ (Літва).





Фота Арцёма Лявы

# Выстава памяці выбітных творцаў

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**У Дольнай залі касцёла Св. Сымона і Алены да 21 снежня працуе выстава, прысвечаная памяці 16 беларускіх мастакоў, якую дабраславіў пробашч касцёлу ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.**

**Выстава глядзіцца цэльна па форме і ўспрымаецца выразна па задуме. З’яднала ж розных па тэмах і стылях мастакоў у межах выставачнай прасторы ідэя незалежнасці Беларусі**

Выстава творцаў розных таленту, відаў і жанраў выяўленчага мастацтва сабраная па сем’ях мастакоў і прыватных калекцыях, атрымалася цікавай і прадстаўнічай.

Экспазіцыю адчыняюць вышчэнкі, створаныя мастаком, педагогам і мастацтвазнаўцам Генадзем Сакаловым-Кубаем.

Далей — некалькі пазнавальных графічных твораў аднаго з патрыярхаў беларускага мастацтва Яўгена Ціхановіча і акварэльная праца прадаўжальніка гэтай мастацкай дынастыі — Генрыха Ціхановіча.

Увогуле, графіка як від мастацтва ў складзе выставы прадстаўлена сціпла. Гэта заўжды пазнавальныя, найруплівейшым чынам зробленыя аркушы «бацькі» дакументальна-мастацкіх рэканструкцыяў Віктара Сташчанюка з Навагрúдчыны, некалькі дынамічных, экспрэсіўна зробленых алоўкам кампазіцый выдатнага мастака-грамадзяніна Яўгена Шатохіна.

У графічнай частцы экспазіцыі прадстаўлена і арыгінальная станкавая работа «На кукцюю» Яўгена Куліка — не толькі выбітнага мастака, але і цэнтральнай постаці мастацка-дысідэнцкага асяродку інтэлігенцыі, што ўвайшоў у гісторыю пад назвай «На паддашку», і з якога ўтварылася ядро Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

Рэпрэзентавана на выставе і дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва. Шкада, праўда, што спадчыннікі былога супрацоўніка бібліятэкі імя Адама Міцкевіча, мастака-кераміста, абаронцы бел-чырвона-белага сцягу і Курапатаў — Рыгора Кійко не далі рэчы мастака ў экспазіцыю. Але ўшанаваць мастака магчыма і апасродкаваным чынам. Як гэта зрабілі куратары выставы датычна да творцы вытанчанай зброі і іншага рыцарскага рыштунка мастака Генадзя Асташонка. «Чалавек залатых рук і светлай душы», — сказаў аб ім Рыгор Барадулін.

Больш ёміста ў экспазіцыі прадстаўлены жывапіс. Ад рэалістычна-эспрэсіянісцкіх рэчаў Лявона і Вольгі Рамаnoўскіх да сюррэалістычных ды абстрактных твораў Тодара Копшы, які мэтанакіравана супрацьстаяў догмам сацыялістычнага рэалізму, быў натхняльнікам і ўдзельнікам многіх падпольных выставаў мінскіх нефармалаў.

Сузор’е імёнаў уражвае. Светлы мастак-рамантык, адданы рэстаўратар і настаўнік беларушчыны Віктар Маркавец, у чыёй майстэрні па вуліцы Дзімітрава, па словах Зянона Пазьняка, адбывалася большасць соймаў яшчэ не зарэгістраванага тады БНФ.

Жывапісец шырокага творчага абсягу Уладзімір Сулкоўскі, які ў шэрагу сваіх палотнаў («Ля вакна», «Герань на падваконні») цудоўным чынам працягвае рэалістычна-філасофскую лінію такіх заходнебеларускіх папярэднікаў, як Станіслаў Жукоўскі ды Павел Южык.

Пятро Шарыпа — чулы педагог і вялікі майстар «рамантычнага краявіду», які знайшоў сваю індывідуальную маляўніча-пластычную мову.

Кастусь Харашэвіч — драматычна напружаны мастак з заходняй часткі Беларусі, аўтар кнігі ўспамінаў «Зведанае і перажытае», чый адметны, выразна індывідуальны стыль, як лічыць Сяргей Харэўскі, перагукаецца з творчасцю Рушчыца і Драздовіча.

І самы малады з гэтай кагорты — Сяргей Цімохаў. Ягоную творчую думку цягам усяго жыцця натхняла найстаражытная паганская тэма, у дэталёва-руплівай распрацоўцы якой майстар дасягае сугучча (калі не тоеснасці) архаікі са знакамі нашага часу. Пацвярджанне таму маляўнічая кампазіцыя ў складзе калекцыі, прысвечаная Максіму Багдановічу.

Выстава глядзіцца цэльна па форме і ўспрымаецца выразна па задуме. З’ядняла ж мастакоў розных па тэмах і стылях, у межах выставачнай прасторы агульная і хвалюючая ідэя незалежнасці Беларусі ды эстэтычныя прыярытэты нацыянальных каштоўнасцяў. Менавіта на гэтым грунце, яшчэ ў 1991 годзе значная частка сябраў СБМ аб’ядналася ў незалежную мастацкую суполку пад імем «Пагоня». Ачоліў яе мастак Алесь Марачкін.

Жыццё суполкі значна ўскладнілася пасля жорсткага зацуглення грамадства ў 1996 годзе. Але «Пагоня» жыве! І змагаецца за свае ідэалы.

Напрыканцы неабходна падзякаваць за экспазіцыю перадусім пасоўніку духа — ахвярнаму мастаку Алесю Цыркунову, адміністрацыі касцёла і ўсім, хто спрычыніўся да гэтай справы.

Дадамо, што 10 снежня а 17-й гадзіне пачнецца вечарына памяці памерлых мастакоў «Пагоні», а 19-й гадзіне адбудзецца імша.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1635

Падпісана да друку 05.12.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.